

№ 36 (53)

**Верасень 2004 года**

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:






Гурткоўцы «Адгалоскі мінулага» мёрскай СШ № 3 з усіх краёў выбіраюць свой

### Нашы віншаванні

*Найшаноўнейшы пан Анджэй Цеханавецкі!*

*З велізарнай шчырасцю віншуем Вас, даўняга сябра Беларускага фонда культуры, камісіі «Вяртанне» і ганаровага сябра Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, з 80-гадовым юбілеем.*

*Добрым словам успамінаем дабрадзейныя Вашы намаганні па вяртанні на Беларусь гістарычных і культурных каштоўнасцей і перш-наперш ведаў пра яе слаўную мінуўшчыну, сярод якой ёсць сівая гістарычнасць Бачэйкава, Мсціслава, Заслаўя, Нясвіжа – Вашых родных мясцін, адметнасць якіх цесна звязана са спадчынаю Цеханавецкіх.*

*Жадаем Вам добрага здароўя і плёну ў высакароднай працы на карысць Айчыны.*

**Старшыня Беларускага фонда культуры, старшыня Беларускага камітэта Міжнароднай Рады па помніках і мясцінах (ІКАМОС)**
**У. ГІЛЕП**

**Старшыня камісіі «Вяртанне» Беларускага фонда культуры, старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў**
**А. МАЛЬДЗІС**



*На здымку:* (справа налева) Анджэй Цеханавецкі, Антоній і Роза Радзівілы на канферэнцыі «Нясвіж як агульнаеўрапейская каштоўнасць» (верасень 1994 г.).

## Пра І. Дамейку і яго сядзібу

**Нацыянальная камісія Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА і Беларускі камітэт Міжнароднай рады па помніках і мясцінах (ІКАМОС) ужо два гады як апякуецца захаваннем і паступовым аднаўленнем былой сядзібы, дзе нарадзіўся наш вядомы зямляк і нацыянальны герой Чылі Ігнацій Дамейка. Сядзіба гэта знаходзіцца ў вёсцы Вялікая Мядзвядка Карэліцкага раёна.**

Намаганнямі маладзёжных арганізацый – сяброў Нацыянальнай камісіі ЮНЕСКА і Беларускага камітэта ІКАМОС – былі праведзены работы па прыборцы і азеляненні тэрыторыі сядзібы, вызначэнні памераў яе галоўнага будынку – дома, у якім нарадзіўся І. Дамейка. Карэліцкі райвыканкам і мясцовае унітарнае прадпрыемства «Зодчий», зацікаўленыя ініцыятываю грамадскасці, вырашылі правесці рэстаўрацыю адзінага ацалелага з XIX стагоддзя будынка на сядзібе – цаглянага флігеля, у якім мяркуецца стварыць музей. Зараз ужо вядуцца рэстаўрацыйныя работы.

Са свайго боку Беларускі камітэт ІКАМОС правёў гісторыка-архіўныя і бібліяграфічныя даследаванні, якія з'яўляюцца грунтоўнай базай для аднаўлення галоўнага дома сядзібы, культурнага ландшафта наваколля, а таксама стварэння музея.

Сама ж вёска Вялікая Мядзвядка з яе гістарычнымі мясцінамі павінна быць уключана ў экскурсійны маршрут свабоднай эканамічнай зоны «Мір–Нясвіж».

**У. ВАЛОДЗЬКА**

## Наш пачэсны пасад між народамі

«Даклад аб чалавечым развіцці-2004», падрыхтаваны групай незалежных экспертаў па даручэнні Праграмы развіцця ААН/ПРААН, мае тэму: «Культурная свабода ў сучасным разнастайным свеце». Даклад упершыню выдадзены на беларускай мове. Прэзентацыя яго адбылася 22 ліпеня ў Нацыянальным прэс-цэнтры Рэспублікі Беларусь з удзелам прадстаўніка ААН/ПРААН у Беларусі Джыхан Султаноглу і галоўнага эканаміста, саветніка ААН/ПРААН у Беларусі Эрыка Бруна.

Сёння на Зямлі больш за дзве трэці краін маюць групы меншасці, якія складаюць звыш 10 працэнтаў ад іх насельніцтва. Амаль мільярд чалавек належыць да груп, якія пакутуюць ад розных форм адлучанасці: палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай… Ні для каго не сакрэт, што дыскрымінацыя па прыкмеце культуры (сутыкненні з-за рознасці моў, рэлігій, этнічных традыцый і нацыянальных асаблівасцей) можа надоўга стаць крыніцай нестабільнасці ўнутры дзяржавы ці паміж дзяржавамі.

*(Заканчэнне на стар. 2)*

**Шаноўныя сябры!**
**Падпісацца на нашу газету заўсёды можна ў рэдакцыі**

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны – 63320;
ведамасны – 633202

**Кошт на 1 месяц:**
індывідуальны – 3 320 рублёў;
ведамасны – 3 439 рублёў

Падпіска ў рэдакцыі – 2 520 рублёў на месяц





# Помнік нёманскім казакам

*15 мая 1942 года ў Мірскім раёне была створана партызанская група пад камандаваннем Дзмітрыя Анісімавіча Дзенісенкі. Спачатку яна ўлілася ў атрад імя Чапаева, а затым выдзелілася ў самастойную адзінку. У жніўні 1942 года група папоўнілася моладдзю Мірскага раёна і афармілася ў атрад, які ў маі 1943 года быў рэарганізаваны ў кавалерыйскі дывізіён. Загадам начальніка штаба БШПР гэты кавалерыйскі дывізіён ад 23 жніўня 1944 года названы I Беларускай кавалерыйскай брыгадай. А на момант уз'яднання з часцямі Чырвонай Арміі I Беларуская асобая партызанская брыгада налічвала ў сваіх радах 276 чалавек.*

***Гісторыка-дакументальная хроніка «ПАМЯЦЬ. Карэліцкі раён»***



*У вёсцы Беражна Карэліцкага раёна адкрыты помнік 1-аму казачаму партызанскаму атраду «Міцькі». Урачыстасць, прымеркаваная да 60-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і Перамогі нашага народа ў Вялікай Айчыннай вайне, пачалася службай у мясцовай Свята-Казанскай царкве, якую вялі Благачынны Карэліцкай акругі, протаіерэй Аляксей, а таксама святары а. Вячаслаў з Міра і а. Аляксандр з Мінска. Ад імя членаў рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Беларускае казацтва» слова трымаў поўны казачы генерал М.Дз. Улаховіч.*

*Помнік асвяціў святар айцец Аляксандр. Права адкрыцця было дадзена вярхоўнаму атаману беларускага казацтва М. Дз. Улаховічу, камандзіру 2-га кавалерыйскага атрада, есаулу М.А. Кліменку і казаку Арцёму Бабіцкаму. На мітынгу пры адкрыцці помніка выступілі намеснік старшыні райвыканкама А.М. Маркевіч, які зазначыў: «132 партызаны і падпольшчыкі з Карэліцкага раёна не змаглі вярнуцца ў родны дом, больш за 2000 воінаў Чырвонай Арміі, ураджэнцаў раёна, не вярнуліся з палёў бітваў, шмат вёсак Карэліччыны былі спаленыя».*

***Пётр ЖЭБРАК***

# Наш пачэсны пасад між народамі

***(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)***

Нягледзячы на адметнасці, усе мы, людзі, маем шмат агульнага. І нас, вядома, не могуць не хваляваць, да прыкладу, такія лічбы: каля 100 мільёнаў дзяцей школьнага ўзросту не маюць сёння магчымасці вучыцца (з іх 60 мільёнаў складаюць дзяўчынкі), больш за 1 мільярд людзей выжываюць на суму менш аднаго даляра ў дзень...

Пачынаючы з 1990 года, у дакладах аб чалавечым развіцці разлічваецца ІЧР (індэкс чалавечага развіцця) – сумарны індэкс, які вымярае сярэднія дасягненні краін у трох асноўных вымярэннях чалавечага развіцця: доўгае і здаровае жыццё, веды і годны ўзровень жыцця (ВУП на душу насельніцтва).

Немалаважная акалічнасць: паказчыкі, пададзеныя ў табліцах гэтага года, адносяцца да 2002 года. Максімальна магчымае значэнне ІЧР – 1, мінімальнае – 0.

Мяркуецца, што індэкс чалавечага развіцця роўны 1, можа мець краіна, у якой сярэдняя працягласць жыцця – 85 гадоў, ВУП на душу насельніцтва (па парытэце пакупной здольнасці) роўны 40 000 далярам ЗША, у якой 100 працэнтаў дарослага насельніцтва з'яўляюцца пісьменнымі, а ўсе, хто дасягнуў адпаведнага ўзросту, наведваюць пачатковую ці сярэднюю школу альбо вучацца ў вышэйшай ці сярэдняй спецыяльнай навучальнай установе.

Бліжэй за іншых да гэтага паказчыка сёння знаходзіцца Нарвегія, ІЧР якой роўны 0,956.

ІЧР роўны нулю можа дасягацца краіне, сярэдняя працягласць жыцця ў якой – 25 гадоў, ВУП на душу насельніцтва (па парытэце пакупной здольнасці) роўны 100 далярам ЗША, у якой 100 працэнтаў дарослага насельніцтва непісьменныя і ніхто не атрымлівае ніякай адукацыі. Бліжэй за ўсіх да гэтай крайнасці зараз знаходзіцца Сьера-Леонэ, ІЧР якой роўны 0,273.

У лік краін з высокім узроўнем чалавечага развіцця (значэнне ІЧР роўнае 0,800 і больш), акрамя Нарвегіі, уваходзяць Швецыя (рэйтынг – 2), Аўстралія (рэйтынг – 3) і, дарэчы, тры колішнія рэспублікі былога СССР – Эстонія (рэйтынг – 36), Літва (рэйтынг – 41), Латвія (рэйтынг – 50).

Расія, Беларусь і Украіна ўзначальваюць табліцу сярэдняга ўзроўню чалавечага развіцця. Прычым па ўзроўні пісьменнасці дарослага насельніцтва наша краіна апярэджвае Расію, аднак (па дадзеных 2002 года) саступае ёй па ВУП на душу насельніцтва. Рэйтынг Расіі – 57, Беларусі – 62, Украіны – 70, Казахстана – 78... Малдовы – 113, Таджыкістана – 116... Сьера-Леонэ – 177.

У час прэзентацыі Даклада аб развіцці чалавека за 2004 год у Беларусі прадстаўнік ААН/ПРААН Джыхан Султаноглу адзначыла высокі інтэлектуальны патэнцыял беларускай нацыі і ўстойлівы непарыўна-пазітыўны паказчык чалавечага развіцця Беларусі сярод іншых краін СНД, пачынаючы з 1995 года.

***Таісія ЛЫСОВА, «Рэспубліка»***

**Сёлета, 30 верасня, споўнілася б 90 гадоў вучонаму-хіміку, дзеячу культуры, старэйшаму сыну Якуба Коласа, збіральніку і папулярызатару спадчыны песняра, арганізатару літаратурна-мемарыяльнага музея Я. Коласа, заслужанаму дзеячу культуры Беларусі Д. К. Міцкевічу (1914, Пінск – 1996).**

**Тыя, хто асабіста ведаў Данілу Канстанцінавіча, захапляўся яго шырокай эрудыцыяй, любоўю да Радзімы, роднага слова, творчасці славутага бацькі, дзеля ўшанавання светлай памяці якога ён прысвяціў усё сваё свядомае жыццё.**

**Даніла Канстанцінавіч пастаянна выступаў са сваімі ўспамінамі пра Якуба Коласа і яго паплечнікаў у самых розных аўдыторыях, часта ягоныя слова гучала на старонках друку, а новае, асабліва з напісанага ў апошні час, заставалася ў рукапісах. Пасля яго смерці дачка Вера Данілаўна пры спрыянні літаратуразнаўца Генадзя Кісялёва і народнага пісьменніка Янкі Брыля сёетое з гэтага выдала ў 2000 годзе асобнай кнігай «Любіць і помніць. Успаміны сын Якуба Коласа».**

**Прапануўваем увазе чытачоў адзін з фрагментаў успамінаў Данілы Канстанцінавіча пра малавядомыя эпізоды з жыцця Якуба Коласа.**



# Трагічныя трыццатыя

## З апошніх надыктовак

Усё ж такі важнае пытанне і важная праблема, і мала хто ведае, якое ж стаўленне Коласа было ў 1930-я гады, калі ішлі арышты яго бліжэйшых сяброў, сваякоў – Язэпа Лёсіка, Некрашэвіча, Смоліча і г. д. Канешне, адносіны Коласа да рэвалюцыі былі неадназначныя. З аднаго боку лозунгі, чыста дэкларатыўныя, агульныя: «свабода – народу», «зямля – сялянам», «навука – моладзі». Хіба ж гэта дрэнна? І сапраўды, сёе-тое рабілася добрага, асабліва ў 1920-я гады. Стварыўся Інбелкульт, Беларускі дзяржаўны універсітэт. Беларуская моладзь пайшла ў навуку – як кажуць, ад сахі, ад плуга, ад самага нізу. Гэта праўда была... Я кажу пра гады савецкай улады. Мінусам, канешне, былі жахлівыя здзекі, расстрэлы, ЧК і г. д. Асабліва наша маці ўспрымала гэта вельмі трагічна...

У цэлым Колас не фальшывіў, калі прымаў першыя, асабліва ў культурным плане, крокі савецкай улады на Беларусі. Але пачаўся змрочны перыяд. Я думаю, гэта недзе 1928, асабліва 1929 год, так званы год вялікага пералому. Што гэта значыць? Колас – выхадзец з працоўнага беларускага сялянства. Ён ведаў цану мазаля, цану працы. «Новая зямля» чаго вартая! Гэта ўсё яго роднае, блізкае. І раптам жахлівая калектывізацыя. Калектывізацыю можна па-рознаму ацэньваць. Я лічу, што гэта проста бандыцкая акцыя бальшавізму. У самым літаральным сэнсе гэтага слова. Хочаце, абвяргайце мяне, але я стаю на гэтым. Чаму? Савецкая ўлада абвясціла: «Зямля – сялянам». Гэта, канешне, была дэмагогія чыстая, але на першых парах людзі атрымлівалі прыблізна роўныя стартавыя магчымасці. Вось, скажам, у вас 10 членаў сям'і было і 10 гектараў зямлі даецца, у другога чалавека 7 членаў сям'і – яму 7 гектараў, далей 5 на 5 і г. д. Значыць, з самага пачатку ніхто не быў у розных умовах, гэта значыць, камусьці 700 гектараў, а камусьці 0,5 гектара. Праўда? Сяляне апантана сталі працаваць. Не шкадуючы ні сіл, ні часу, ад цямна да цямна. І чым больш дбайныя былі гаспадары, тым лепш атрымлівалася ў іх. Людзі багацелі сваёй працай. Усе такія размовы, што кулакі – гэта эксплуататары, гэта лухта паўнейшая, дэмагогія і больш нічога.

Калі пачалася калектывізацыя (тым больш праводзілася яна бесчалавечна), людзей узімку 1929–1930 года (а тады зіма была асабліва лютая) выганялі са сваіх хат, сваіх сядзіб, не давалі магчымасці дзецям апрануцца. Многія гінулі ў дарозе. І, канешне, бацьку гэта было вядома, і ён быў гэтым абураны. Тым не менш усё-такі хацелася нешта бачыць у перспектыве і карыснае ад калгасаў – механізацыю працы, справядлівасць і г. д. Гэтага не было, але надзеі нейкія тут былі. Гэта адно. Другое. На першых парах савецкай улады было поўнае, у асноўным пазітыўнае, стаўленне да беларускасці. Адкрыты беларускія школы, тэхнікумы, Інбелкульт, пазней – Акадэмія навук, БДУ, іншыя вышэйшыя навучальныя ўстановы рэспублікі. Усё гэта, безумоўна, былі прагрэсіўныя з'явы. І, канешне, усяляк не толькі Коласам, але і іншымі прымалася як належнае.

Але наступіў змрочны 1930 год. Пачаліся беспадстаўныя рэпрэсіі супраць лепшых нацыянальных сіл беларусаў... Беспадстаўна былі абвінавачаны органамі ДПУ і партыйнымі органамі для таго, каб разграміць беларускую нацыянальную ідэю. Канешне, гэтыя падзеі з вялікай цяжкасцю і трывогай, роспачу і горам былі ўспрыняты Коласам як асабістае гора. Купала нават дайшоў да спробы самагубства на гэтай глебе... У Коласа трошкі другое было, у яго была сям'я, ён імкнуўся ўсё ж такі нястомнай самааддачай працай выходзіць з гэтага становішча ў межах магчымага. Я памятаю, што пасля арышту Язэпа Лёсіка, яго роднага дзядзькі, бясспрэчна, чэснага, сумленнага чалавека, бацька неяк у сям'і сказаў: «Што ж рабіць? Можа, мне ў знак пратэсту адмовіцца ад пенсіі?!» (якая была прызначана ў 1926 годзе). Падумалі, а што гэта дасць, ніхто пра гэта шырока не ўведае, гэта будзе расцэнена як контррэвалюцыйны выбрык, будзе паклёп...

Пазней, у 1931 годзе, памятаю, бацька гаварыў маме: «Мы забыліся, калі смяяліся». Калі бачыў гэтую жахлівую сітуацыю, тэрор, ліквідацыю сялян, многіх асабістых знаёмых, якіх ён ведаў як сумленных працаўнікоў, чэсных людзей і, канешне, блізкіх і родных яму людзей, беларускіх інтэлігентаў, пісьменнікаў, навукоўцаў. Я хацеў бы катэгарычна сцвердзіць, што сама назва «нацдэм» – «нацыянал-дэмакрат» – была выдумана ў нетрах ДПУ і партыйных органаў. Не было такой партыі ўвогуле. У нас у доме часта бываў Лёсік і другія, і ніхто ніколі не называў сябе «нацыянал-дэмакратам». Тэрміна такога не было... Сам тэрмін «нацыянал-дэмакрат» – гэта паклёпніцкая выдумка, фантазія падонкаў з ДПУ, з партыйных органаў. Галавой адказваю за свае словы. Вось такія змрочныя думкі былі ў Коласа.

Аднойчы, я памятаю, недзе ў 1931 годзе, неяк ён сам сабе ў нашай прысутнасці сказаў: «Чорт яго ведае, а можа, Лейба быў бы лепшы?», маючы на ўвазе Льва Троцкага, да каторага, канешне, ніякай сімпатыі ніколі не меў. Але з двух зол, як кажуць, бяруць меншае. Дык не лепшым быў бы Лейба, чым Сталін? І яшчэ адзін раз я чуў прыкладна ў 1932 годзе: «Як бы я хацеў, як бы я радаваўся, каб гэты вусаты гайдаўся на шыбеніцы».

***Даніла МІЦКЕВІЧ***





Руплiўцы-краязнаўцы

# Архіў Шуканава

***У Жлобінскай цэнтралізаванай бібліятэцы імя Н.К. Крупскай ёсць пакой роднай кнігі. У гэтым пакоі сабрана паэзія і проза тых паэтаў і празаікаў, жыццё якіх звязана са Жлобіншчынай. Яны або нарадзіліся тут, адсюль іх карані, або жывуць і працуюць цяпер. Увагу прыцягвае мноства папак, згрупаваных пад назвай «Архіў Шуканава». Мікалай Васільевіч Шуканаў – супрацоўнік раённай газеты «Новы дзень», публіцыст, крытык, піша ў абласныя і рэспубліканскія выданні.***

Знаёмства з архівам уражвае. У ім сапраўдная скарбонка для тых, хто любіць Беларусь, роднае беларускае слова. І для тых, хто прытаміўся на жыццёвым шляху. З матэрыяламі «Архіва Шуканава» карысна пазнаёміцца як пажылому, так і маладому, як настаўніку, так і вучню. З іх даведаешся пра нястомных руплівцаў на ніве беларускай нацыянальнай культуры і літаратуры.

У папках – кароткая біяграфічная звестка пра таго ці іншага пісьменніка, арыткулы аб ім ці напісаныя ім жа, яго вершы ці проза, лісты.

М. Шуканаў знаёмы асабіста ці перапісваецца з многімі дзеячамі беларускай літаратуры. Яму пішуць ці пiслаі А. Бяляцкі, В. Ярац, А. Бароўскі, Л. Баранаў, С. Адамовіч, А. Васілевіч, М. Даніленка, А. Бабаед, Хв. Жычка, У. Содаль, М. Шавыркін, А. Рогалеў, В. Рагаўцоў, М. Танк, В. Кадзетава і інш. Ад старэйшага беларускага пісьменніка Хведара Жычкі М. Шуканаў атрымаў больш за сорак лістоў. Перапіска працягваецца і сёння. Вядомы паэт піша шмат аб чым. Па-першае, ён пастаянна жадае ведаць, чым жыве яго родная Жлобіншчына, хоча дыхаць родным паветрам. Пагэтаму Хведару Жычку патрэбна раённая газета. М. Шуканаў своечасова дасылае нумары газеты. У сваю чаргу Шуканаў працуе над тэмай «Жлобіншчына літаратурная». Хв. Жычка, які шмат часу аддаў рэдактарскай працы, ведае многіх паэтаў і пісьменнікаў. З цеплынёй ён піша пра паэта-муляра Мацвея Яцука, турбуецца пра тое, каб наведалі жонку М. Яцука (пасля смерці паэта). Жычка аддае належнае таленту М. Лупсякова, называе яго «самым таленавітым земляком». Ён успамінае пра ўраджэнца Жлобіна музыказнаўцу Дзмітрыя Жураўлёва, расказвае пра той перыяд жыцця, які звязаны з М. Чавускім. Піша кароткі водгук на кніжку М. Марушкевіча «Галіны лічылачкі».

Да вайны ў Стрэшынскай школе працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры Ісаак Баруковіч (Барысаў). Жычка расказвае пра яго паэтычную дзейнасць. Ён цікавіцца кніжкамі, выдадзенымі ў Жлобіне, піша водгук на вершы жлобінскай паэтэсы М.Смірновай. З лістоў даведваешся, аб чым піша паэт, чым жыве, пра яго інтарэсы, пра яго перакладчыцкую дзейнасць, пра некаторыя моманты жыццёвага шляху.

Мы прывялі прыклад кароткага агляду адной з папак, прысвечаных Хведару Жычку. А побач такія ж цікавыя і патрэбныя матэрыялы пра У. Содаля, аўтара даследаванняў аб Ф. Багушэвічу і В. Дуніну-Марцінкевічу; пра В.І. Рагаўцова, паэта, крытыка, літаратуразнаўцу; пра П. Капчыка, які даўно жыве і працуе за межамі Беларусі, а піша на беларускай мове, пра М. Лупсякова, А. Капусціна, С. Сыса, П. Луда, Ул. Федасеенку інш.

Багата зямля Жлобіншычы на таленты. І ў гэтым яшчэ больш пераконваешся, калі знаёмішся з архівам Шуканава і калі знаходзішся ў пакоі роднай кнігі. Стараннямі і працаўнікоў бібліятэкі з'явіцца перад тваімі вачыма духоўнае багацце аднаго з куткоў нашай Беларусі.

***Ірына САСНА,***
***пенсіянерка***




*Фота з Браслаўшчыны – Зміцера [illegible]*

# «Вяртанне Арлалёта»

Прозвішча Вайніслава (Войслава) Казіміра Сулімы Савіча-Заблоцкага да нядаўняга часу было вядома гісторыкам беларускай літаратуры XIX стагоддзя толькі як аўтара трох беларускіх вершаў, пасланых ім у 1873 годзе ў рэдакцыю часопіса «Вестник Европы» (але ненадрукаваных, выяўленых потым у архіве) і беларускамоўных лістоў да ўкраінскага дзеяча П. Драгаманава.

Потым высветлілася, што гэты ўраджэнец маёнтка Панчаны Дзісенскага павета (цяпер Мёрскі раён) вучыўся ў розных універсітэтах Еўропы, вёў бурнае жыццё ў Расіі, Германіі, Аўстра-Венгрыі, Францыі, Егіпце, Бельгіі, спрабаваў выдаваць газеты на польскай, французскай мовах. Але, карыстаючыся псеўданімамі Грамадзянін з Белай Русі і Граф Суліма з Белай Русі, ён нязменна падкрэсліваў сваю сувязь з радзімай.

І вось дзякуючы дацэнту Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта Жанне Некрашэвіч-Кароткай, Граф Суліма (ён жа, паводле псеўданімаў, Полацкі, Гаўрыла, Павел Завіша) стаў вядомы беларускаму чытачу і як празаік. Знаходзячыся ў Польшчы, даследчыца выявіла ў познанскім выданні «Варта» і пераклала на беларускую мову «апавяданні» (а фактычна аповесць) Савіча-Заблоцкага «Арлалёты і падканвойны, або Полацкая шляхта». Забяспечаны прадмовай і шматлікімі каментарыямі, пераклад друкуецца з працягам у часопісе «Полымя» (2004. № 1, 3–5). Гэтая публікацыя – значная падзея ў гісторыі беларускай літаратуры і вяртанне ў яе яшчэ аднаго малавядомага імя.

***Таццяна ПЯТРОВІЧ***

Ад БМА – для архіва

### Больш Манюшак!

Не назавеш прадзюсера «БМAgroup» Віталя Супрановіча, які паабяцаў працяг серыі «Беларускі Музычны Архіў», манюкам. Таму што «не зманіў» ён, і пятым дыскам гэтага эпахальнага цыклу якраз і будзе збор твораў геніяльнага сына зямлі ігуменскай, класіка беларускай і польскай музыкі Станіслава Манюшкі. Праграма будзе выдадзеная да 185-годдзя геніяльнага кампазітара.

Альбом С. Манюшкі «Песні з-над Нёмна і Дзвіны» стане пятым у серыі «Беларускі Музычны Архіў», у якой ужо выйшлі альбомы такіх легендарных асобаў, як Міхась Забэйда-Суміцкі, Віктар Шалкевіч, Сяржук Сокалаў-Воюш, Мікола Равенскі.

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА***

# Просты настаўнік Адам Чарэй

***Пачнём з таго, што ўраджэнец Смалявіччыны Адам Сямёнавіч Чарэй не быў ні вядомым палітыкам, ні дзяржаўным дзеячам, ні вучоным, а стаўся ўрэшце рэшт простым вясковым настаўнікам. А яшчэ ў памяці сваіх вучняў ён застаўся чалавекам гарачым, неўраўнаважаным, які лёгка раздражняўся і паводзіў сябе не заўсёды педагагічна. Аднак нядоўгае жыццё гэтага чалавека настолькі арганічна ўплялася ў тканіну гісторыі яго непаўторнага, велічнага, як і драматычнага і нават трагічнага часу, умясціла ў сабе столькі падзей, што ён цалкам бы мог стаць героем захапляльнага рамана.***

Адам Сямёнавіч Чарэй нарадзіўся ў 1896 годзе ў вёсцы Слабада ў сялянскай сям'і. У восем гадоў бацька аддаў яго ў школу. Хлопчык аказаўся здольным. У 1911 годзе ён скончыў Смалявіцкае народнае вучылішча , а ў 1916 годзе – Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю.

На прасторах Еўропы тым часам бушавала Першая сусветная вайна. Маладога настаўніка адразу ж прызвалі ў царскую армію. Ён быў залічаны ў 222 пяхотны полк. Расійская армія ў гэты перыяд мела вострую патрэбу ў афіцэрскіх кадрах малодшага і сярэдняга звяна. Адукаваны навабранец хутка прыцягнуў увагу начальства і быў накіраваны ў Аляксееўскае ваеннае вучылішча ў Маскве.

Пасля паскоранага курса навучання ў сакавіку 1917 года ў званні прапаршчыка Адам Чарэй накіроўваецца на службу ў горад Таганрог у адзін з пяхотных палкоў. У верасні яго пераводзяць на Заходні фронт. Тут, у акопах, нашага земляка застала вестка аб кастрычніцкім узброеным перавароце ў Пецярбургу і Маскве. Малады афіцэр з душой селяніна, які не прыналежаў ні адной з палітычнах партый, пераходзіць на бок пралетарскай рэвалюцыі.

У студзені 1918 года Адам захварэў і быў накіраваны ў шпіталь на лячэнне ў горад Вязьму, дзе правёў некалькі месяцаў. Гэта быў перыяд імклівага шэсця савецкай улады па гарадах і вёсках неабдымнай Расійскай імперыі. Канчаткова царская армія прыходзіла ў заняпад і распускалася. Чырвоная Армія толькі-толькі пачынала фарміравацца. Не ведаючы, да якога берага прыстаць у гэты смутны час, былы прапаршчык расійскай арміі адпраўляецца ў горад Сызрань да свайго знаёмага Фралова. Тут, у Сызрані, ён парывае з ваеннай службай і паступае ў казначэйства працаваць рахункаводам.

Аднак мірнае жыццё Адама было нядоўгім. У маі 1918 года над Расіяй распасцерла свае чорныя крылы грамадзянская вайна. У Сызрані ўлада перайшла да Устаноўчага схода. Адам Чарэй як служачы рэвалюцыйнай улады быў арыштаваны і пасаджаны ў турму, адкуль яму ўдалося выйсці толькі ў верасні 1918 года. У гэты час адміністрацыя турмы вербавала сярод зняволеных салдат у Белую гвардыю. Выказаў жаданне змагацца супраць бальшавікоў і Адам Чарэй. Ён выйшаў з турмы і тут жа падаўся ў Воінскае ўпраўленне Сызрані, адкуль быў накіраваны на фронт камандаваць ротай. Аднак Адам, як толькі выехаў з Сызрані з групай салдат, тут жа пакідае іх і пераходзіць на бок Чырвонай Арміі.

Ён трапляе служыць у штаб Ікчэнскай дывізіі, якой камандаваў Лацыс. Пасля заняцця Сызрані часцямі Чырвонай Арміі (кастрычнік 1918 года) застаецца працаваць у ліквідацыйнай камісіі па канфіскацыі каштоўнасцей разбітых белагвардзейцаў. Потым пераходзіць у Сызраньскую ЧК, дзе да красавіка 1919 года загадвае сялянскім аддзелам. Уступае ў рады бальшавікоў.

У красавіку 1919 года, напярэдадні рашаючых бітваў з арміямі Калчака, Дзянікіна і Юдзеніча, па партыйнай мабілізацыі камандзір батальёна ў складзе 1-га Сызраньскага палка Адам Чарэй накіроўваецца на Усходні фронт. У часцях 221-га палка 25-й дывізіі ўдзельнічае ў баях супраць Калчака, у ліпені 1919 года перакідваецца на Уральскі фронт. Пад Уральскам у верасні 1919 года ён атрымаў цяжкае раненне і трапіў у шпіталь.

Праз паўтара месяца пасля лячэння ў шпіталі ў горадзе Саратаве Адам Чарэй зноў накіроўваецца ў Сызрань, а адтуль – у горад Сімбірск (цяпер Ульянаўск) у распараджэнне штаба Прыволжскай ваеннай акругі, дзе атрымлівае прызначэнне ў Сімбірскі ваенкамат інструктарам для даручэнняў пры губваенкаме. Аднак ужо ў 1920 годзе яго пасылаюць на Паўднёвы фронт у 13-ю Армію як камандзіра роты, дзе ён знаходзіўся да поўнага разгрому Врангеля. Адсюль у саставе 276-га палка перакідваецца на Украіну для ўдзелу ў барацьбе з бандамі Махно.

Вайна, паходы, раненне падарвалі здароўе Адама. У 1921 годзе ён захварэў на тыф і паехаў на папраўку дамоў у Смалявіцкі раён. Ачуняў і быў накіраваны для далейшага праходжання службы ў горад Бабруйск, дзе яго ў 1922 годзе нарэшце дэмабілізавалі.

Адам зноў вяртаецца да бацькоў у Смалявіцкі раён. Стаў настаўнічаць у Слабадской школе, неўзабаве быў пераведзены ў вёску Мглё, а потым і ў Судобаўскую пачатковую школу. Тут ён ажаніўся з мясцовай сялянскай дзяўчынай.

Жахі грамадзянскай вайны, неймаверная жорсткасць з абодвух бакоў пакінулі глыбокі след у псіхіцы маладога чалавека. Ён стаў раздражняльным, нястрыманым. Здавалася , у жыцці наступілі шчаслівыя дні, напоўненыя любімай работай, працай на зямлі і радасцямі ціхага сямейнага жыцця, але свежыя фізічныя і душэўныя раны пастаянна напаміналі аб сабе.

Між тым у краіне разгарнуўся несупынны наступ на сялянства з паўсюднай калектывізацыяй аднаасобных гаспадарак, што прывяло да хваляванняў шырокіх народных мас. А з кім паразмаўляць селяніну пра злабадзённыя падзеі, з кім параіцца, як не з настаўнікам – чалавекам адукаваным і паважаным на сяле. Людзі сустракаліся з Адамам Сямёнавічам, абмяркоўвалі палітыку партыі, наракалі на перагібы. І хто мог падумаць, што гэтыя давер-лівыя гутаркі абернуцца для сельскага настаўніка новай бядой.

У студзені 1935 года органамі НКУС Беларусі была «раскрыта» контррэвалюцыйная арганізацыя настаўнікаў Смалявіцкага раёна, трое з якіх былі звязаны з Жодзіна: былы дырэктар Жодзінскай дзесяцігодкі Я.М. Бароўскі, былы настаўнік Жодзінскай пачатковай школы А.А. Войцік і выкладчык пачатковай школы ў вёсцы Судобаўка (цяпер у межах горада Жодзіна) А.С. Чарэй. Пачаліся арышты. 27 студзеня 1935 года быў арыштаваны Адам Сямёнавіч, у лютым – Аляксандр Войцік і Яўстафій Мікалаевіч Бароўскі. Іх абвінавацілі ў тым, што нібыта, будучы членамі контррэвалюцыйнай арганізацыі, на тэрыторыі Смалявіцкага раёна яны праводзілі сярод насельніцтва антысавецкую агітацыю з мэтай стварэння незадаволенасці палітыкай партыі і савецкай улады.

Прыгаворам спецыяльнай калегіі Вярхоўнага суда БССР ад 11 мая 1935 года па артыкулу 72 «а» і 76 Крымінальнага кодэкса БССР яны былі асуджаны на тэрмін ад 4 да 10 гадоў выпраўленча-працоўных лагераў.

Больш за ўсіх вінаватым быў прызнаны А.С. Чарэй. Яму далі дзесяць гадоў катаргі. Адбываў тэрмін пакарання Адам Сямёнавіч у Паўночна-ўсходнім лагеры Магаданскай вобласці, дзе не вытрымаў непасільнай працы і 19 кастрычніка 1943 года памёр ад знясілення і хваробы.

Пастановай Пленума Вярхоўнага суда БССР ад 18 студзеня 1961 года А.А. Войцік, А.С. Чарэй і Я.М. Бароўскі рэабілітаваны за недаказанасцю прад'яўленага ім абвінавачання.

***Галіна АНІСКЕВІЧ,***
***кіраўнік Жодзінскага краязнаўчага музея***

# Чаму Ягайла шлюбаваўся ў Наваградку?

***У адказе на гэтае пытанне існуе шмат розных версій. Як і на пытанне, чаму вялікі князь Літоўскі ажаніўся з маладой князёўнай Соф'яй Гальшанскай. Але, на мой погляд, найбольш верагодная версія будзе тая, пра якую тут пойдзе гаворка.***

Да гэтага Ягайла быў тройчы жанаты: першы раз з Ядвігай Анжуйскай, другі – з Ганнай Цылейскай, трэці – з Эльжбетай Граноўскай. Ад першага шлюбу з Ядвігай у яго была дачка Эльжбета-Баніфацыя. Але адразу пасля нараджэння яна памерла. Услед за ёю памерла 17 ліпеня 1399 года і яе маці, каралева Ядвіга, якая перажыла сваю дачушку ўсяго на некалькі дзён.

З Ганнай Цылейскай у Ягайлы таксама была дачка Ядвіга, якая памерла дарослай, пасля яго жаніцьбы з Соф'яй. Апошнюю шмат хто са шляхты абвінаваціў у яе смерці. Таму сцвярджэнні некаторых гісторыкаў, быццам у Ягайлы не было дзяцей, не адпавядаюць рэчаіснасці.

Справа зусім у іншым. Па няпісаным законе ў сярэднявечнай Польшчы не прынята было займаць каралеўскі трон асобам жаночага полу. Таму выходзіць, што ў Ягайлы не было не дзяцей, а пераемніка трону. Праўда, на гэты раз усё выглядала крыху інакш. Польская шляхта сваім рашэннем яшчэ ў 1413 годзе дазваляла пяцігадовай Ядвізе каранавацца і быць каралевай Польшчы.

Аднак Уладзіслаў ІІ Ягайла, нягледзячы на дазвол, неаднаразова звяртаўся да папы рымскага з просьбай дазволіць ажаніцца яшчэ адзін раз, каб «прыдбаць» пераемніка кароны.

Па закону каталіцкай царквы ўступаць у шлюб у чацвёрты раз не дазвалялася, нягледзячы на тое, што першыя жанкі памерлі. Да таго ж, ведаючы пажылы ўзрост караля, папа доўга маўчаў. Нарэшце даў дазвол з умовай, што шлюб адбудзецца непрыкметна, без каралеўскага шыку. Лепш за ўсё не ў Кракаве і не ў Вільні, а дзе-небудзь на перыферыі. Ягайла выбраў Наваградак.

Шлюб адбыўся ў фары Вітаўта ў 1422 годзе, аб чым сведчыць памятная дошка, прымацаваная звонку да паўночнай сцяны касцёла. Вяселле адбылося ў рэзідэнцыі стрыечнага брата князя Вітаўта, у Лідскім замку. Усё было па-каралеўску, урачыста. На вяселлі прысутнічаў пасланнік папы Антоні Зено, мэтай якога было выветліць, якія адносіны існуюць паміж Ягайлам і Вітаўтам. Аднак прымаць якія-небудзь рашэнні ён не быў упаўнаважаны пантыфікам.



Гэта быў няроўны па ўзросце маладажонаў шлюб. Ягайлу ў той час было прынамсі 71 год, а семнаццацігадовая Соф'я квітнела маладой прыгажосцю. Соф'я паходзіла з вядомага ў ВКЛ праваслаўнага роду князёў Гальшанскіх, была сярэдняй дачкою князя Андрэя. Перад шлюбам яна перахрысцілася ў каталіцтва і прыняла імя Зофіі.

У шлюбе Ягайлы з Соф'яй быў вельмі зацікаўлены стрыечны брат Ягайлы князь Вітаўт. Нягледзячы на падпісанае Астроўскае (каля Ліды) пагадненне, у адносінах паміж імі па-ранейшаму існавала напружанне. Вітаўт вельмі хацеў, каб пры каралеўскім двары ў Кракаве быў «свой чалавек» – Соф'я была пляменніцай яго жонкі Ульяны, дачкі князя Івана Гальшанскага. Але разлікі Вітаўта не збыліся: Соф'я рашуча адмовілася выконваць ролю «інфарматара», за што ледзь не паплацілася жыццём.

Ягайлу не хапала як асабістай, так і палітычнай культуры. Да таго ж быў ён вельмі раўнівы. Ён да дзікунства раўнаваў усіх сваіх жонак. Абвінавачаная нагаворамі ў фліртах з Генрыхам Габсбургскім, першая жонка Ядвіга вымушана была апраўдвацца. Аднак, калі справа была як след даследавана, усё аказалася плёткамі. Нагаворшчыка па законе гонару прымусілі залезці пад лаўку, адмовіцца ад нагавору і забрахаць па-сабачы. Было гэта на ўзгорку каля Вісліцы. Тое месца да сённяшняга дня называецца «Сабакава Гара» («Пся Гура»).

Карыстаючыся гэтай заганай караля, падручныя Вітаўта распаўсюдзілі чуткі, быццам сыны Соф'і Уладзіслаў і Казімір не ад яго. Гэта мела палітычны сэнс. Такім чынам, нашчадкі Ягайлы, яго сыны, прызнаваліся «па-за законам» і не мелі б права ўнаследваць каралеўскую карону Польшчы. Каб адвесці ад сябе гнеў караля, Соф'я вымушана была паклясціся ў сваёй невіноўнасці на Бібліі.

У Польшчы Соф'ю празвалі «Маці каралёў». Яна нарадзіла Ягайлу трох сыноў. Сярэдні памёр у маленстве. Першы стаў каралём Польшчы і Венгрыі і загінуў у бітве з туркамі пад Варнай. Забіў яго янычар Хаджа Чызр. Адсечаную галаву надзелі на вастрыё пікі, паднялі над полем бітвы, абвяшчаючы: «Гэта галава караля!» Малодшы Казімір стаў заснавальнікам цэлай дынастыі Ягелонаў, якая доўжылася 126 гадоў. У Казіміра было 13 дзяцей. Каралеўскую дынастыю склалі сыны Ян Ольбрахт, Аляксандр, Жыгімонд І Стары і ўнук Жыгімонд ІІ Аўгуст.

Такі мела працяг гісторыя шлюбу Уладзіслава ІІ Ягайлы з Соф'яй Гальшанскай у Наваградку больш як 580 гадоў таму.

***Анатоль КУЛЕШ***

**На ілюстрацыі – фрагмент гравюры XIX ст. «Вянчанне Ягайлы з Ядвігаю»**




## 1314

## Знішчэнне нямецкіх рыцараў Давыдам Гарадзенскім

Калі рыцары Тэўтонскага ордэна знішчылі прусаў, дык адразу ж рушылі на землі Вялікага княства Літоўскага, у тым ліку на беларускае Панямонне. Ужо ў 1284 годзе рыцары з'явіліся пад Гародняй, штурмам здабылі замак і спалілі горад. У 1295-м яны напалі на Гародню і Навагрудак, у 1305 і 1306 гадах зноў прыходзілі ваяваць Гародню, а ў 1311-м урываліся двойчы. Падчас сваіх рэйдаў рыцары пустошылі вялікія абшары, забіралі людзей і жывёлу.

У адказ ВКЛ арганізоўвала паходы на тэрыторыю Прусіі. Напрыклад, у 1311 годзе вялікі князь Віцень павёў палкі далёка ў глыбіню ордэнскіх уладанняў, але гэты паход скончыўся няўдала.

З пачатку XIV стагоддзя націск нямецкіх рыцараў на Вялікае княства нарастаў. Беларускае Панямонне, якое цярпела ад іх асабліва часта, займела тады свайго абаронцу – гарадзенскага старосту Давыда. Сын славутага Даўмонта, Давыд ад прыроды быў адораны незвычайным вайсковым талентам і таму стаў адным з самых блізкіх паплечнікаў вялікага князя.

Кіруючы Гародняй, Давыд шмат разоў сустракаў пад мурамі гарадзенскага замка нямецкіх рыцараў, неаднаразова граміў іх на сваёй зямлі і вадзіў дружыны ва ўладанні тэўтонцаў. Адну з найлепшых акцый супраць немцаў ён правёў у 1314 годзе.




*Давыд (малюнак з кнігі «Тэўтонскі ордэн. Ад Ерусаліма да Грунвальда»)*



*Кап'ё – асноўная вайсковая адзінка ў сярэднявеччы*

Таго году тэўтонскія рыцары ажно тройчы хадзілі на Вялікае княства Літоўскае. Першым разам яны дасягнулі Меднікаў ды там і спыніліся нанач, нічога не прадчуваючы. А ў начной цемры на іхні лагер напала нашае войска і шмат нашкодзіла. За тое рыцары жорстка помсцілі – палілі вёскі, хапалі людзей, 700 чалавек павялі ў няволю.

Другім разам тэўтонцы хадзілі на адзін з замкаў Вялікага княства, але залога надта добра баранілася, і яны, пастаяўшы, вярнуліся з мілым ліхам.

Нарэшце ў верасні 1314 года сам маршал Тэўтонскага ордэна ўзначаліў буйны аддзел рыцараў, які рыхтаваўся ўварвацца ў Панямонне праз знаёмыя гарадзенскія мясціны. З чатырохтыднёвым запасам прадуктаў захопнікі рушылі на Гародню.

Паход ад пачатку быў надзвычай цяжкі. Ісці давялося праз балоты, шматлікія рэчкі і непралазныя лясы. Гарадзенцы ведалі пра набліжэнне рыцараў, і, калі тыя прыйшлі, замак, які абараняла войска Давыда, ужо быў непрыступны.

Паваяваўшы ваколіцы, маршал вырашыў весці войска «ў край Крывічоў» – на Навагрудак. Каб мець харч на зваротны шлях і не абцяжарваць рух аддзела, ён загадаў скласці прадуктовыя запасы і ўсё нарабаванае ў двух месцах гарадзенскай пушчы. Ахоўваць гэтыя склады засталіся значныя сілы рыцараў.

Як толькі немцы адышлі на Навагрудчыну, яны пашкадавалі, што пакінулі свае запасы ў пушчы. Край быў нібы вымерлы: мясцовыя жыхары пахаваліся ў багнах і лясах, не пакінуўшы ў вёсках нічога, чым рыцары маглі б пажывіцца.

Навагрудак быў таксама малалюдны. Без асаблівых цяжкасцей захапіўшы яго, раззлаваныя заваёўнікі выпалілі горад дазвання і спустошылі ваколіцы. Ад Навагрудка маршал павёў рыцараў на замак Крывіч, што стаяў над Нёманам, аднак і там яны нічога не здабылі. Залога мужна адбівалася, а тэўтонцы неслі страты і цярпелі голад. Заставалася адно – хутчэй вярнуцца да схаваных запасаў.

Які жах апанаваў рыцараў, калі на месцы і першага і другога склада яны знайшлі толькі пабітую варту! У выніку захадаў Давыда Гарадзенскага ў ваколіцах таксама нельга было знайсці ніякага спажытку. Гэтак без бітваў вялікае ордэнскае войска было зможанае на той зямлі, якую прыйшло ваяваць. Мала хто з рыцараў дайшоў да Прусіі.

***Генадзь САГАНОВІЧ***



***Рэканструкцыя падзей 1314 года на рыцарскім фэсце «Навагрудак-2000»***





***З цікавасцю прачытаў у № 22 «Краязнаўчай газеты» эсэ Генрыха Далідовіча, прысвечанае 80-годдзю Васіля Быкава. Сапраўды, як піша Генрых, я ў 1974 годзе выступаў на літвечарыне, калі адзначалася яшчэ толькі 50-годдзе нашага славутага пісьменніка, і прачытаў там свой верш юбіляру.***

***Калі газету зацікавіць той твор, то, калі ласка, напомніце яго чытачу.***

***Мікола АЎРАМЧЫК***

* * *

*Васілю Быкаву*

*Таварыш маёр запасу,*
*Дазвольце звярнуцца да вас...*
*Вы лічыце за абразу*
*Сябе выстаўляць напаказ.*

*Землетрасенне нібыта –*
*Гарматаў пагрозлівы рык...*
*Як рэквіем па забітых,*
*Гучыць жураўліны крык...*

*І вылазка на край свету,*
*Да ворагаў па языка,*
*Дзе ўспышка трэцяй ракеты,*
*Як здрадлівы ўсплёск цесака.*

*Калі дажыць да світання,*
*Калі пратрымацца да дня,*
*Дык магілкамі не стане*
*Праклятая вышыня.*

*Такое трэба сумленне*
*І сціпласць суровую мець,*
*Як тое паведамленне*
*Пра вашу заўчасную смерць.*

*Даўно пад Кіраваградам*
*Пастаўлены вам абеліск...*
*Жывыя вы... Я так рады!..*
*Бо мёртвым нішто не баліць.*

*Я сёння часінаю мірнай,*
*Прыклаўшы да брыля руку,*
*Навыцяжку стаўшы смірна,*
*Як належыць франтавіку.*

*Вам чэсць аддаю з пашанай –*
*Ўваскросшы з мёртвых, жывы,*
*Без вестак прапаўшы рана*
*Гвардыі радавы.*



Камень «Волас», в. Крыжоўка пад Мінскам

# Творы мастацтва экспартаваліся цэнтралізавана

***Пры выяўленні і сумесным выкарыстанні (вяртанне тут наўрад ці магчыма) твораў беларускага мастацтва, якія сёння знаходзяцца ў замежных краінах, трэба ўлічваць, што многія з іх трапілі туды не з прычыны ваенных дзеянняў, а ў выніку мэтанакіраванага дзяржаўнага продажу. Ён праводзіўся ў 1920–1930-х гадах пераважна праз усесаюзную ўстанову «Торгсин» («Гандаль з замежнікамі»), пра што ўжо часткова вялася гаворка ў зборніках «Вяртанне».***

Нядаўна знойдзены новыя архіўныя дакументы, якія змяшчаюцца тут упершыню. Гэтыя матэрыялы, несумненна, дапамогуць нашым гісторыкам і культуролагам у іх далейшых пошуках.

Першы дакумент датаваны 17 снежня 1928 года. Гэта ліст намесніка народнага камісара знешняга і ўнутранага гандлю Абрамсона, накіраваны па адрасе «ЦК КП(б)Б, тав. Васілевічу». Падаем тэкст у арыгінале з захаваннем лексічных і граматычных асаблівасцей.

*«Па пытанню аб экспарце рэчаў мастацтва і старажытнасці і іншых каштоўнасцей, знаходзячыхся ў музеях БССР, да гэтага часу праведзена наступнае: Пытанне гэтае ўзгоднена з Наркамасветай БССР, вынікам чаго быў разасланы спецыяльны абежнік у усе акругі БССР за подпісамі НКГандлю і НКАсветы аб арганізацыі спецыяльных камісій для выяўлення ў мясцовых музеях рэчаў, годных для экспарту. Гэтакія камісіі былі складзены, але не гледзячы на ўсе прынятыя захады іх праца не дала дагэтуль ніякіх вынікаў.*

*З прычыны гэтага НКГандлем камандзіраваны адказны супрацоўнік Дзяржгандбелу па ўзгадненні гэтага пытання з Галоўнавукай у акруговыя гарады БССР для праверкі працы акруговых камісій і для выяўлення і адбору сумесна з камісіямі ў мясцовых музеях рэчаў для экспарту.*

*Прынцып адбору з музеяў рэчаў для экспарту такі, што адбору падлягаюць выключна рэчы другараднага музейнага значэння, не звязаныя з краем і не каштоўныя з боку гістарычнага. Асноўныя музейныя калекцыі пры гэтым не зачапляюцца. Напрыклад, пры адборы ў Аршанскім музеі прызначаны пасля абгляду гэтакага рэчы, не маючыя ніякай адносіны да Беларусі, як малюнкі Франка-Прускай бойкі (132) і рэчы кітайска-японскага выбразіцельнага мастацтва.*

Што датычыцца экспарту розных рэлігійных рэчаў праз Дзяржгандбел, апошнім прароблена вялікая падрыхтоўчая праца ў даным напрамку. Была выяўлена наяўнасць вялікай кольгасці гэтакіх рэчаў, як іконы, рызы, яўрэйскія торы, тэфілін (філакцерыі) і інш., якія можна дастаць для гэтай мэты і на якія маецца вялікі попыт за мяжой (на іконы ў Чэха-Славакіі і Югаславіі, на яўрэйскія рэчы ў Амерыцы і інш. краінах).

На экспарт усіх вышэйпамянутых рэчаў, асабліва рэчаў культу, чакаем Вашага прынцыповага ўзгаднення».

Праз два дні на атрыманым лісце алоўкам была пастаўлена размашыстым почыркам рэзалюцыя: «Скажы НКГ, што трэба, каб яны спецыяльна паставілі гэтыя пытанні з прапановамі». Каму яна адрасавана, расшыфраваць не ўдалося.

Праз некалькі тыдняў, 14 студзеня 1929 года, пытанне «Аб экспарце старажытных, мастацкіх і музейных каштоўнасцей» было заслухана на пасяджэнні сакратарыята ЦК КП(б)Б. У пратаколе № 63 у рэзалюцыі па гэтым пытанні сказана (лексіка беларускамоўнага тэксту пакідаецца без змен):

«1. У мэтах пасілення экспарту лічыць неабходным адабраць у музеях БССР каштоўнасці, не маючыя гістарычнага значэння, і ўтварыць з іх фонд для экспарту.

2. Абавязаць Наркамгандлю па ўзгадненні з Галоўнавукай скончыць да 1 красавіка абследаванне ўсіх музеяў БССР з мэтай выяўлення і выняцця ўсіх каштоўнасцей для экспарту.

3. Абавязаць фракцыі (у сэнсе аддзелы. – **Рэд.**) Акрвыканкамаў забяспечыць поўнае садзейнічанне прадстаўнікам Наркамгандлю і НКАсветы ў правядзенні гэтай працы на мясцох.

4. Даручыць Дзяржгандлю практыкаваць вываз за межы мастацкіх малюнкаў сучасных мастакоў БССР.

5. Дазволіць Наркамгандлю і Дзяржгандлю арганізаваць вываз усіх прадметаў культу (ікон, тор і г.д.) з тым, каб вываз для продажу за межы праводзіўся ўжо маючыхся прадметаў, не арганізуючы ніякай новай вытворчасці.

6. У мэтах папулярызацыі прадметаў мастацтва БССР як музейных, так і іншых за межамі лічыць мэтазгодным практыкаваць удзельнічанне Дзяржгандлю ў выстаўках, наладжваемых арганізацыямі СССР за межамі.

7. Ускласці поўную адказнасць на Наркамгандлю і Дзяржгандлю за тое, каб закупка прадметаў культу згодна п. 5-га праводзілася такім чынам, каб не было ніякіх палітычных ускладненняў».

Выкананне пастановы было ўскладзена на таго ж Абрамсона, а таксама Шэйніна, Баліцкага і «фракцый АВК».

З пунктаў пастановы нас, безумоўна, сёння асабліва цікавяць пяты і шосты. Якія творы тагачасных мастакоў (а сярод іх маглі быць і Шагал, і Малевіч, і Пэн) былі прададзены за мяжу, куды і каму? Якія «прадметы культу» з зачыненых цэркваў, касцёлаў і сінагог былі рэкамендаваны «для продажу за межы»? Трэба ўлічваць, што тагачасны замежны пакупнік разбіраўся ў мастацтве, не кідаў грошы на вецер, і яму дзеля забеспячэння хуткіх тэмпаў індустрыялізацыі маглі прапанаваць старадаўнія шэдэўры культавага мастацтва.

Для канчатковага высвятлення пытанняў трэба было б знайсці спісы, складзеныя Акрвыканкамамі, а таксама спісы прададзенага, якія могуць захоўвацца ў архівах Масквы і Санкт-Пецярбурга.

***Вячаслаў СЕЛЯМЕНЕЎ,***
***дырэктар Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь,***
***«Голас Радзімы»***

# Сляды вайны

***Уладзімір Мікалаевіч Кісялёў, кандыдат эканамічных навук, які пэўны час займаў пасаду намесніка міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь, нарадзіўся на ўскраіне Пухавіцкага раёна – у вёсцы Шацк. Вядомы гэты чалавек і сваёй актыўнай літаратуразнаўчай работай. Найперш – кнігамі па гісторыі Уздзеншчыны.***

Нядаўна пабачыла свет (Мн., Выдавецтва В. Хурсіка, 2004) аўтабіяграфічная аповесць Уладзіміра Кісялёва «Асколкі параненай памяці». Аўтар падрабязна, спасылаючыся не толькі на ўласныя ўспаміны, але выкарыстоўваючы і архіўныя дакументы, расказвае пра жыццё ў час акупацыі ў вёсцы Дараганава Асіповіцкага раёна. Як туды патрапілі Кісялёвы, або Кісялі (справа ў тым, што бацька аўтара меў прозвішча Кісель)? У пачатку 1940 года Мікалай Андрэевіч Кісель быў ляснічым Лашанскага лясніцтва на Уздзеншчыне. Яно да 1939 года ўваходзіла ў пагранічную зону. Старадарожскі лясгас быў створаны ў сувязі з пераносам граніцы. На самым пачатку ўспамінаў У. Кісялёў зазначае: «Бацька мой пасля сямігадовай школы, службы ў арміі, навучання ў Будакашалёўскай лясной школе ды дзесяцігадовага практычнага вопыту меў пэўны аўтарытэт спецыяліста (ва ўсякім разе, Лашанскае лясніцтва заўсёды было на добрым рахунку). На пачатку 1940 года ён даў згоду на перамяшчэнне ў Дараганаўскае лясніцтва, тады яшчэ Пухавіцкага лясгаса...»

Расказаўшы пра даваенны побыт дараганаўцаў, падрабязна спыніўшыся на рабоце лясгаса, У. Кісялёў пераходзіць да падзей вайны. Што цікава, дык гэта падрабязна выпісаныя дэталі. Яны ўражваюць, дазваляюць разгледзець ваеннае ліхалецце да драбніц. Аўтар кнігі-ўспаміну нават ці не ўпершыню ў гісторыка-краязнаўчай і мемуарнай літаратуры акцэнтуе ўвагу на звычайным жыцці, а не аддае перавагу расповедам пра гераічныя ўчынкі, нязломную барацьбу мсціўцаў і г.д. Гэта не азначае, што У. Кісялёў займаецца «рэвізіяй» альбо спрабуе ачарніць мінулыя падзеі. Якраз не. Але паказвае вайну з усімі яе акалічнасцямі, піша без усялякага пафасу, без патэтыкі. І гэтым, думаецца, нікога не прыніжае. Наадварот: узвышае простых людзей, сведчыць пра ўсе складанасці, якія суправаджалі чалавека з дня ў дзень у гады нямецка-фашысцкай акупацыі.

Шмат увагі Уладзімір Кісялёў надае тэме здрадніцтва, называе прозвішчы паліцэйскіх, паказвае іх сапраўднае аблічча. А разам з тым піша і наступнае: «У час пералому вайны не згубіўшыя гонару паліцэйскія сталі ўсё часцей падавацца ў партызаны. Рабіць гэта было даволі небяспечна – на блізкіх абрушваліся рэпрэсіі. З гэтай прычыны практыкаваліся нават «прафілактычныя» расстрэлы паліцэйскіх».

Бацька Уладзміра Кісялёва – Мікалай Андрэевіч Кісель працаваў ляснічым і ў час вайны – з лістапада 1941 па 1 студзеня 1943 года. Штат Дараганаўскага лясніцтва складаў «пры немцах» 12 чалавек, але быў запоўнены напалову. «Лясное ўпраўленне, – расказвае У. Кісялёў, – месцілася ў Старых Дарогах, яго дырэктарам быў Лазаковіч. Пры ім знаходзіўся нямецкі вальдінспектар – афіцэр. У 1941–1942 гадах, пакуль яшчэ не заявілі пра сябе партызаны, ён час ад часу наязджаў на легкавіку ў Дараганаўскае лясніцтва. Зброю леснікам немцы не выдавалі...»

Мікалай Кісель наладзіў сувязь з партызанамі. І згодна з іх заданнямі і згодна са сваім сумленнем усямерна рабіў так, каб работа лясніцтва сышла на нішто. У Дараганаве фашысты так і не наладзілі паўнацэнную нарыхтоўку лясных багаццяў. Затое Мікалай Кісель тыя матэрыяльныя каштоўнасці, што выдзялялі немцы, – сякеры, пілы, напілкі, соль, махорку, драўняны спірт, – перадаваў партызанам.

Пасля вызвалення М. Кісель пайшоў на фронт, але ў хуткім часе быў арыштаваны. «...ён радавы 616 СП па даносе быў 16 жніўня 1944 года арыштаваны органамі контрразведкі «Смерш» і 7 верасня гэтага ж года пазбаўлены свабоды на 10 гадоў з наступным паражэннем у правах яшчэ на 3 гады, з канфіскацыяй належачай яму часткі маёмасці...» Сям'ю пазбавілі чырвонаармейскай дапамогі, а следам выселілі з леснічоўскага жытла. На шчасце, знайшліся сведкі таго, што ляснічы дапамагаў партызанам. Было праведзена новае расследаванне. 4 студзеня 1946 года Мікалай Андрэевіч вярнуўся з калоніі. Сям'я ўжо тым часам была на Уздзеншчыне – у Хатлянах. А па дарозе з Дараганава быў яшчэ і пухавіцкі Шацк. І з ім у Кісялёў і Кісялёва-малодшага повязь самая што ні ёсць родная.

Напрыканцы дазволю сабе невялікую цытату. Завяршаючы сваю аўтабіяграфічную споведзь пра Дараганава, Уладзімір Кісялёў піша: «У 1972 годзе мне давялося наведаць Берлін, Патсдам і знакаміты зал Патсдамскай канферэнцыі 1945 года. Калі, прыехаўшы да бацькоў, я расказаў пра гэту падзею і ўхваліў сённяшніх, амаль савецкіх немцаў за іх гасціннасць і цёплы прыём, наша малаадукаваная маці холадна паглядзела на мяне і як да чужога звярнулася: «Ну вось і перабірайся туды да сваіх «харошых» немцаў. А да мяне больш не прыязджай!» Што тут дадасі... Вайна была і застанецца для народа Беларусі вайною.

***Алесь КАРЛЮКЕВІЧ***



Фота Глеба ЛАБАДЗЕНКІ

# Дзе ў свеце жывуць беларусы?

***Акрамя Рэспублікі Беларусь, дзе яны складаюць блізу 80 працэнтаў, найбольш кампактна беларусы жывуць на Беласточчыне, Віленшчыне, Латгальшчыне, Пскоўшчыне, Смаленшчыне і Браншчыне. Але варта зазначыць, што яны там не эмігранты, а спрадвечныя жыхары на сваёй этнічнай тэрыторыі, на сваёй зямлі.***

Пакідаць радзіму беларусаў вымушалі розныя прычыны, але перш за усё эканамічныя і палітычныя. Найбольш масавая эміграцыя пачалася пры канцы XIX стагоддзя. Паскоранае развіццё капіталізму абумовіла тады міграцыю сялян і дробных вытворцаў дзеля лепшага заробку і набыцця зямлі. Сотні тысяч беларусаў пераязджалі ў Сібір, на Далёкі Усход, у вялікія прамысловыя гарады Расіі (толькі за перыяд з 1896 да 1912 года ў Сібір перасяліліся з Беларусі 717 тысяч чалавек). За межамі Расейскай імперыі нашых суродзічаў найбольш вабілі Злучаныя Штаты Амерыкі, Канада, Аргенціна і Бразілія.

Першая сусветная вайна, гвалтоўная масавая эвакуацыя, рэвалюцыя і бальшавіцкія рэпрэсіі раскідалі масы нашых людзей па абшарах Расіі.

Жорсткасць савецкай улады прымусіла стваральнікаў і актыўных прыхільнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі падацца на эміграцыю ў Літву, Латвію, Польшчу, Чэхаславаччыну і Нямеччыну.

У міжваенным перыядзе (1921–1939 гады) дзесяткі тысяч выхадцаў з Заходняй Беларусі ў пошуках лепшай долі накіраваліся ў Канаду, Аргенціну, Уругвай, Парагвай і Бразілію.

У час Другой сусветнай вайны больш за 300 тысяч беларусаў апынулася ў Нямеччыне, Аўстрыі ды іншых заходнееўрапейскіх краінах. Многія з іх пазней выехалі адтуль у Злучаныя Штаты Амерыкі, Канаду і Аўстралію, утварыўшы новыя асяродкі беларускай эміграцыі.

За мяжою засведчылі сваю жыццяздольнасць арганізацыі нашых суродзічаў «Згуртаванне беларусаў у Вялікай Брытаніі», «Згуртаванне беларусаў у Канадзе», «Беларуска-амерыканскае задзіночанне», «Беларускае аб'яднанне ў Аўстраліі», «Арганізацыя беларуска-амерыканскай моладзі», «Беларускае нацыянальнае аб'яднанне ў Канадзе», «Беларускі саюз моладзі ў Канадзе».

Найбуйнейшымі цэнтрамі навукова-культурнага жыцця эміграцыі сталіся Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Йорку (выдае навуковыя «Запісы»), Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Канадзе, Беларуская бібліятэка і музей імя Ф. Скарыны ў Лондане, Беларускі (Вялікалітоўскі) фонд імя Л. Сапегі ў ЗША, Англа-беларускае таварыства (выдавала «Часопіс беларускіх даследаванняў» на ангельскай мове).

Згуртаванню беларусаў на чужыне, развіццю іх нацыянальнай свядомасці і культуры спрыяюць і папулярныя перыядычныя выданні, сярод якіх найбольш значныя газета «Беларус» (Нью-Йорк, выдаецца з 1950 года) і часопіс «Беларуская думка» (Саўт-Рывэр, з 1960 года).

Беларуская эміграцыя дала свету таленавітых спевакоў (Пётра Конюх, Міхась Забэйда-Суміцкі, Мікола Стрэчань), кампазітараў (Мікола Равенскі, Мікола Куліковіч-Шчаглоў, Эльза Зубковіч), мастакоў (Віктар Жаўняровіч, Уладзімір Шыманец, Зміцер Чайкоўскі), паэтаў (Наталля Арсеннева, Алесь Салавей, Масей Сяднёў ды інш.). У сем'ях беларускіх эмігрантаў нарадзіліся і Алія Клеч (Пашкевіч) – вядучы мастак «Дыснейленда», і Уэйн Грэцкі – зорка паўночнаамерыканскага хакею.

Можна толькі ганарыцца, што беларускага паходжання гэтакія славутыя вучоныя, як Барыс Кіт – спецыяліст у галіне ракетнай тэхнікі, узнагароджаны Залатым медалём Германа Обэрта, былы дараднік урада ЗША ў галіне развіцця астранаўтыкі, акадэмік Сусветнай акадэміі астранаўтыкі; Ілля Прыгожын – прэзідэнт Бельгійскай каралеўскай Акадэміі навук, літаратуры і прыгожых мастацтваў, дырэктар Міжнароднага інстытута фізікі і хіміі ў Сальвэ, лаўрэат Нобелеўскай прэміі 1977 года ў галіне хіміі.

***Леў МІРАЧЫЦКІ,***
***«Народаня воля»***

# Пачаткі геаграфіі беларускай ад Кіркора



***Вядучым аўтарам трэцяга тома «Живописной России» стаў вядомы беларускі грамадскі дзеяч, пісьменнік і навуковец Адам Ганоры Кіркор. З ўсяго (490 старонак) друкаванага тэкста яму належыць 413, так што паводле сучаснага разумення цалкам можна назваць аўтарам гэтага твора А. Кіркора пры ўдзеле П.П. Сямёнава-Цян-Шанскага і С.В. Максімава.***

## *Жыццёвыя вехі навукоўца*

Беларускі этнограф і археолаг, публіцыст і грамадскі дзеяч, які ўнёс значны ўклад у геаграфічнае вывучэнне роднага краю, Адам Ганоры Карлавіч Кіркор нарадзіўся ў студзені 1819 года ў вёсцы Слівін Клімавіцкага павета Магілёўскай губерні і ў сям'і небагатых шляхціцаў. Ёсць весткі, што ягоныя бацькі ў Магілёўскай губерні валодалі невялікім маёнткам.

Першапачатковую адукацыю атрымаў у Магілёўскай гімназіі, потым перавёўся ў Віленскую, якую скончыў экстэрнам у 1838 годзе. Адам Кіркор вельмі рана выявіў свае навуковыя здольнасці і цягу да самастойных даследаванняў, маючы зацікаўленне да гісторыі, этнаграфіі і геаграфіі роднага краю. Ужо ў 1839 годзе ён друкуе першую навуковую працу «Язычніцкія звычаі на Белай Русі», якая паказала, што малады даследчык не толькі ўмелы кампілятар чужых навуковых твораў, але і тонкі збіральнік звычаяў свайго народа і іх смелы трактоўшчык.

Паступіўшы на службу ў Віленскую казённую палату, Адам Кіркор фармальна далучыўся да тых чыноўнікаў, якіх А. Герцэн характарызаваў як «клас штучны, неадукаваны, галодны, што не ўмее нічога рабіць, акрамя «служэння», нічога не ведае, акрамя канцэлярскіх формаў...» Да гэтага варта дадаць, што за кошт хабару і вымагальніцтва гэтыя людзі жылі даволі бязбедна. Грамадзянскім подзвігам маладога чалавека можна лічыць той факт, што А. Кіркор у тым чыноўніцкім асяродку не апусціўся да заўзятара бастону ці прэферансу, а, сышоўшыся з найлепшымі прадстаўнікамі тагачаснага Віленскага таварыства, працягваў упарта працаваць над сабою, заявіўшы пра сябе як пра грамадскага дзеяча і публіцыста. Пад уздзеяннем былога выкладчыка Віленскага універсітэта доктара М. Гамаліцкага навуковец ўжо на пачатку саракавых гадоў XIX ст. сур'ёзна зацікавіўся гісторыяй, геаграфіяй і статыстыкай Літвы і Беларусі. Пад статыстыкай на той час мелі на ўвазе ўсе эканамічныя звесткі, што адносіліся як да дзейнасці дзяржавы, так і народа, гата значыць прыкладна тое, што сёння вызначаецца тэрмінам «эканамічная геаграфія». А Расійская імперыя, па словах аднаго з першых эканоміка-географаў Карла Германа, была «статыстычнаю пустыняй». Падрабязных, фундаментальных эканоміка-геаграфічных і фізіка-геаграфічных прац па заходніх губернях імперыі, уключна з Беларуссю, не існавала. Краязнаўства ў тых умовах адыгрывала значную ролю. А. Кіркор, пашыраючы спектр сваіх літаратурна-навуковых заняткаў, хутка заняў у іх вядучае месца.

Уражвае шырыня навуковых зацікаўленняў маладога навукоўца. Ён выдае альманахі «Родегаст» (1843), «Умственный дневник» (1845–46), актыўна займаецца літаратурай і культурай свайго народа. У 40–50-я гады выдаецца не толькі ў Вільні, але выступае ў друкаваных органах Адэсы, Кракава, Пецярбурга. Актыўна займаецца археалогіяй. Разам з К. Тышкевічам раскапаў каля 1 000 курганаў, стварыўшы ў 1855 годзе на іх базе ў Вільні музей старажытнасцей.

Заходнія вобласці імперыі пасля польскага паўстання 1830 года выдзяляліся прытоеным рэвалюцыйным браджэннем. Венгерская рэвалюцыя 1848 года надта напужала царскі ўрад, у сувязі з падзеямі ў Галіцыі (як аб тым сведчаць афіцыйныя дакументы) А. Кіркор атрымаў негалоснае даручэнне – даследаваць настроі сялянаў заходняй Беларусі. Навуковец з энтузіязмам узяўся за справу і на падставе сабраных дадзеных напісаў справаздачу, у якой падкрэсліў глыбокую варожасць сялян да памешчыкаў і царскіх чыноўнікаў. Супраціў прыгоннаму ўціску быў вельмі моцны, зямля беларусаў заставалася «гарачай зонай», што і пацвердзіла пазней паўстанне 1863 года.

У 1849 годзе А. Кіркор стаў членам Віленскага статыстычнага камітэта, хутка заняў пасаду ягонага сакратара і рэдактара губернскіх «памятных книжек» (1850–1854 гг.). З таго часу эканоміка-геаграфічныя праблемы края ўваходзяць у кола ягоных службовых абавязкаў, да якіх, ведама, можна ставіцца па-рознаму. Што да Кіркора, то ўжо ў 1851 годзе ён выдае «Нарыс гарадоў Віленскай губерні», чым закладвае асновы геаграфіі гарадоў Літвы і Беларусі. Пра навуковую значнасць можна меркаваць па тым, як шырока скарыстоўваў ягоныя дадзеныя П.П. Сямёнаў-Цян-Шанскі ў сваім «Географа-статыстычным слоўніку Расійскай імперыі». З другога боку, А. Кіркор значна пашырыў неафіцыйны аддзел «памятных кніжак» і надрукаваў у іх шматлікія матэрыялы па гісторыі, этнаграфіі і эканамічнай геаграфіі Віленшчыны, беларускага краю. Несумненна адно – гэтая і наступныя працы А. Кіркора адыгралі вялікую ролю ў фарміраванні беларускай нацыянальнай самасвядомасці, паднялі цікаўнасць да мовы, ладу жыцця і гісторыі беларусаў. У гэтым накірунку Адам Кіркор працаваў усё жыццё. І паміраючы на чужыне, меў поўнае права сказаць пра сябе: «Я ўсё ж нешта зрабіў для роднай Літвы». Гэта значыць, калі глядзець з сённяшняга дня, – для Беларусі.

У 1857–1858 гадах А. Кіркор выдае «Виленский сборник», які царскі ўрад закрыў паводле палітычных матываў, бо рэдактар меў смеласць друкаваць ліст вядомага гісторыка І. Лялевеля, на той час палітэмігранта. Нягледзячы на перашкоды, у 1859 годзе нястомны Кіркор заснаваў у Вільні прыватную друкарню і з 1860 года рэдагуе газету «Виленский курьер». У сваёй друкарні выдае працы перадавой польскай і беларускай інтэлігенцыі – Ю. Крашэўскага, У. Сыракомлі, Ю. Ляскоўскага ды іншых прагрэсіўных пісьменнікаў і навукоўцаў. Мала таго, дык на прыклад маскоўскага гуртка У. Станкевіча на пачатку 60-х гадоў вакол А. Кіркора ў Вільні склаўся гурток польскай і беларускай інтэлігенцыі, да якога належалі пісьменнікі В. Дунін-Марцінкевіч і У. Сыракомля, гісторыкі Н. Маліноўскі і К. Тышкевіч, кампазітар С. Манюшка, многія іншыя тагачасныя дзеячы, апазіцыйны настрой якіх быў добра вядомы самадзяржаўю. Не можа быць сумневаў, што культурна-асветная праца гуртка адыграла пазітыўную ролю ў падрыхтоўцы паўстання 1863 года. Хаця сам Кіркор, будучы царскім чыноўнікам, у друку выказваў толькі ўмераныя, ліберальныя погляды, якія магла надрукаваць любая пецярбургская газета. Праўда, захавалася вельмі цікавае сведчанне М. Багдановіча, што Кіркор пісаў папулярныя брашуры для народа, хаця мы сёння пра тое практычна нічога не ведаем, бо яны маглі выдавацца толькі таемна і, вядома ж, без пазначэння аўтарства.

Паўстанне 1863 годза, яго параза, пакаранне смерцю ў Вільні Кастуся Каліноўскага ды іншых кіраўнікоў, несумненна, сталі важным рубяжом у жыцці навукоўца. Нягледзячы на сваю знешнюю лаяльнасць і бездакорную службу, Кіркор таксама прыцягваўся да дазнання камісіяй Мураўёва-вешальніка. Справа ў тым, што былая жонка Адама, артыстка Алена Маеўская (1828–1900), якая ў 1857 годзе кінула яго і паехала ў Варшаву, брала актыўны ўдзел у падзеях 1863 года. Гэта стала падставай, каб прыцягнуць Кіркора да суда. Але віна ягоная, натуральна, не была даказанай. Аднак апраўдальны вердыкт не пазбавіў яго ад штодзённага падпарадкавання царскаму сатрапу, з якім працаваць было надзвычай складана. Не дзіўна, што хутка навуковец з'язджае з Вільні ў Пецярбург, дзе ў 1868–1871 гг. рэдагуе газету «Новое время».

У Пецярбургу, відавочна, у сувязі з няўдачамі ў выдавецкай дзейнасці, яму пагражала даўгавая турма. І Кіркор быў змушаны паехаць у Кракаў.

У Польшчы ён выдае «Очерки современной русской литературы» (1873), у якіх высока ацэньвае ролю В. Бялінскага, М. Чарнышэўскага і М. Дабралюбава ў яе фарміраванні і развіцці. У той час, калі рэвалюцыйны дэмакрат Мікалай Чарнышэўскі як дзяржаўны злачынца адбываў вілюйскую катаргу і ягонае імя ў рускай публіцыстыцы забаранялася ўзгадваць! Не пакідае А. Кіркор і сваіх гісторыка-геаграфічных заняткаў. У 1875 годзе ў Варшаве выходзіць ягоная абагульняльная праца «Литва и Русь под взглядом историческим, статистическим и археологическим».

Працуючы над праектам выдання «Живописная Россия» П.П. Сямёнаў-Цян-Шанскі разумеў, што больш буйнога спецыяліста па геаграфіі Беларусі і Літвы, чым А. Кіркор, у рускай і сусветнай навуцы не было. Таму вытлумачальна, чаму гэтая тэма была аддадзена яму. Хаця Кіркор бязвыездна працягваў жыць у Польшчы, што, вядома ж, ускладняла арганізацыю працы.

Падчас падрыхтоўкі тэкстаў «Живописной России», ствараючы, так бы мовіць, буйное геаграфічнае, гістарычнае і этнаграфічнае палатно пра два народы, у многім звязаныя агульнай гісторыяй, Адам Кіркор пайшоў па правільным шляху – ён абагульніў у геаграфічнай панараме частку сваіх раней надрукаваных прац, дадаўшы новыя матэрыялы. Такім чынам, «Живописная Россия» як бы падводзіць вынікі дзейнасці Адама Ганорыя Кіркора як географа.

Асабісты лёс навукоўца ў Кракаве склаўся цяжка. Ён памёр бедным 23 лістапада 1886 года. Архіў захоўваецца ў Ягелонскай бібліятэцы Кракава.

***Уладзімір БЫКАЎ,***
***кандыдат геаграфічных навук, дацэнт***

***(Заканчэнне будзе)***

# Прыадкрыць таямніцу

Здаўна прыкмечана, што свет у многім трымаецца і рухаецца наперад дзякуючы энтузіястам – людзям, якія добраахвотна і бескарысліва ўскладваюць на свае плечы цяжар праблем, да якіх іншым і справы няма. Менавіта энтузіясткай мне хочацца назваць Вікторыю Міхайлаўну Жалняровіч. Аб ёй нам расказаў Адам Восіпавіч Мальдзіс.

Жанчына жыве ў вёсцы Барванішкі, што па суседству з Лошай, але гэта ўжо Літва. Ад пачатку свядомага жыцця Вікторыя Міхайлаўна цікавіцца гісторыяй свайго роду, генеалогіяй уладальнікаў колішніх тутэйшых двароў і маёнткаў, якія ў мінулым вызначалі культурную палітру нашых земляў, гісторыяй вёскі, дзе нарадзілася, і месца, дзе прайшло жыццё. У 1980-я гады, калі В. М. Жалняровіч працавала настаўніцай у Шумску, яна пачала работу па стварэнні краязнаўчага музея, занялася даследаваннем гісторыі Шумска. З таго часу прачытаны тысячы старонак розных кніг, напісаны сотні лістоў, запоўнены фотаздымкамі, запіскамі дзесяткі тэматычных папак.

Атрымаўшы ад нас ліст, Вікторыя Міхайлаўна ўжо праз тыдзень была ў Гудагайскай школе.

Гэтая 78-гадовая жанчына, даведаўшыся, што наша школа працуе над стварэннем музея, пасяшалася нам на дапамогу, каб падзяліцца сваім багатым вопытам краязнаўцы-даследчыка, вопытам па сістэматызацыі матэрыялу.

У першую чаргу Вікторыя Міхайлаўна параіла нам заняцца даследаваннем біяграфіі, творчай спадчыны мастака Льва Дабжынскага. Сама яна запісала ўспаміны жыхароў Лошы, якія яшчэ памятаюць аб сям'і Дабжынскіх, аб абставінах жыцця і смерці самога Льва.

З фотаапаратам у руках нястомная даследчыца, так бы мовіць, «правандравала» і ўздоўж пагранічнай паласы з боку Беларусі. На месцы, дзе некалі быў хутар Смалянікі, (гэта ў кірунку Дравянікаў), на ўзвышшы, зарослым дрэвамі і хмызняком, знаходзіцца магіла. На надмагільным камені – надпіс на польскай мове:

«Юліян Блажэйевіч. доктар мед., генерал. Памёр 17.X.1926, пражыўшы 68 год», а ніжэй: «Пелагея з Песлякоў Блажэйевічова. Памерла 4.V.1920, пражыўшы 50 год».

Пакуль невядома, хто гэты генерал Блажэйевіч. Магчыма, хтосьці з чытачоў дапаможа прыадкрыць таямніцу гэтых подпісаў. Будзем удзячныя за любую інфармацыю.

Сустрэча з краязнаўцай з Барванішак абудзіла ў нас жаданне даведацца як мага больш аб мінулым нашага раёна.

*Марыя ВАСІЛЁНАК,*
*настаўніца Гудагайскай СШ*
*Астравецкага раёна*

***

**У кожнага горада ёсць свае запаветныя імёны, якія ніколі не забываюцца. Яны, як зоркі на небасхіле, ззяюць доўга і шчодра, асвятляюць гістарычны шлях людзям, з'яўляюцца ўзорам служэння Айчыне і бліжняму. Для кобрынцаў такой пуцяводнай зоркай стаў Аляксей Міхайлавіч Мартынаў.**

# Захавальнік гісторыі

## Аляксею Міхайлавічу Мартынаву – 100 гадоў з дня нараджэння

Аляксей Міхайлавіч Мартынаў нарадзіўся 7 жніўня (20 жніўня па новым стылі) 1904 г. у горадзе Кобрыне ў сям'і народнага настаўніка Міхаіла Якаўлевіча Мартынава і Параскевы Антонаўны, народжанай Пісарэвіч. З самага ранняга дзяцінства адоранасць хлопчыка мела натуральнае і багатае выйсце. З 1911 года дзіця аддалі вучыцца ў Кобрынскае прыходскае вучылішча, але ў сувязі з ваеннымі дзеяннямі 1915 г. вучоба была перапынена, і сям'я эвакуіравалася ў горад Рагачоў Магілёўскай губерні. Там Мартынаў прадоўжыў навучанне ў рэальным вучылішчы. У 1919 г. яго бацька быў прызначаны загадчыкам школы ў вёсцы Прыбар Гарадзецкага сельсавета. У гэтай вёсцы зімой 1920–1921 гг. Аляксей Міхайлавіч стаў выкладчыкам лікбеза, а з сакавіка 1921 г. працаваў настаўнікам у вёсцы Нікалаеўка.

У маі 1922 г. пасля саракадзевяцігадовай службы настаўнікам раптоўна ад інсульту на 65-м годзе жыцця памёр бацька. Параскева Антонаўна вырашыла вярнуцца ў Кобрын, дзе ў бацькоў быў драўляны домік з прысядзібным участкам. Тут А.М. Мартынаў працаваў чорнарабочым пераважна на сезонных работах і на лесазаводзе, потым займаўся садоўніцтвам на прысядзібным участку. Клопат пра маці і малодшых дзяцей, пастаянная цяжкасць са сродкамі не дазволілі маладому чалавеку пайсці вучыцца далей. Але імкненне стаць пісьменным было настолькі моцным, што ён заняўся самаадукацыяй і займеў вялікі поспех на гэтай ніве. Яго цікавасць і захапленні былі выключна шырокімі, ахоплівалі розныя галіны ведаў і мастацтва.

Аляксей Міхайлавіч самастойна вывучыў і добра валодаў англійскай, французскай, нямецкай, польскай і ўкраінскай мовамі, асвоіў эсперанта. Апрача мовазнаўства, захапляўся чытаннем твораў класікаў сусветнай літаратуры. Самастойныя пробы пяра ўвянчаліся з'яўленнем шэрагу цікавых апавяданняў і аповесці «Валадар свету», у якой зрабіў спробу выкласці сваё філасофскае светаадчуванне. Аб сур'ёзнасці захаплення літаратурнай працай сведчыць перапіска з рускімі пісьменнікамі і выдаўцамі ў эміграцыі ў краінах Заходняй Еўропы. Захаваліся пісьмы Міхаіла Арцыбашава, Марка Алданава і Міхаіла Асаргіна. Было пасланне і ад Івана Буніна, які ўбачыў у Мартынаве зерне таленту і рэкамендаваў яму не кідаць заняткі літаратурай, але адначасова раіў мець стабільную крыніцу даходаў. Любоў да гэтага віду мастацтва чырвонай ніткай прайшла праз увесь творчы шлях Аляксея Міхайлавіча Мартынава. У яго доме захавалася багацейшая бібліятэка унікальных кніг, сцены ўпрыгожваюць партрэты любімых пісьменнікаў і паэтаў. Літаратурная і публіцыстычная спадчына Аляксея Міхайлавіча і сёння не пакідае сумненняў у аўтарстве.

Талент заўсёды шматгранны, не апошняе месца ў шырокім спектры захапленняў займала маляванне. У сямейным архіве сустракаюцца арыгінальныя карандашныя партрэтныя і гістарычныя замалёўкі, якія здзіўляюць дакладнасцю адлюстравання і падмечанага характару. Гэтыя мініяцюры пераконваюць нас у абгрунтаванні жадання Міхаіла Якаўлевіча Мартынава паслаць сына вучыцца ў Пецярбургскае мастацкае вучылішча. Але войны і рэвалюцыя паўсталі на шляху да мары.



Мартынаў цудоўна ведаў сусветную гісторыю і гісторыю Кобрыншчыны. Нездарма яго артыкулы сталі першакрыніцай па вывучэнні і асэнсаванні мінулага роднага краю. У яго была нейкая незвычайная цікавасць да ўсяго акаляючага. Не існавала такога пытання, якое засталa б яго знянацку. Ён мог сябе нароўні пачуваць з людзьмі любога інтэлектуальнага ўзроўню, здзіўляў суразмоўцаў сваёй эрудыцыяй, хаця дыплома аб вышэйшай адукацыі не меў.

Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР у 1939 г. Аляксея Міхайлавіча залучылі да працы ў Часовае ўпраўленне Кобрынскага павета наладжваць службу сувязі. Потым ён стаў арганізоўваць гарадскую бібліятэку, загадчыкам якой прапрацаваў да самага пачатку вайны.

У час акупацыі Мартынаву ўдалося пазбегнуць прымусовай мабілізацыі на работу ў Германіі. З мая 1942 г. працаваў кладаўшчыком і бляхаром у будаўнічай фірме. Потым пры садзейнічанні падпольшчыка Аляксея Курэшы стаў сувязным партызанскага атрада імя Чапаева, забяспечваў партызанаў патрэбнымі ім матэрыяламі са склада. У будучым выконваў разведвальныя заданні ў тыле ворага, якія атрымліваў ад оперупаўнаважанага партызанскай брыгады імя Чапаева С.І. Шмырова. Ён рызыкаваў жыццём, калі дзякуючы сваёй пісьменнасці і назіральнасці, па заданні штаба Чырвонай Арміі нанёс на карту роднага горада размяшчэнне варожых дотаў, дзотаў, супрацьтанкавых равоў і воінскіх злучэнняў праціўніка.

Адразу пасля выгнання гітлераўскіх акупантаў па заданні райкама КПБ Мартынаў аднаўляў работу гарадской бібліятэкі, а ў лістападзе 1944 г. быў прызваны ў рады Савецкай Арміі. Пасля дэмабілізацыі каля года працаваў тэхнікам-інвентарызатарам. А са жніўня 1946 г. быў прызначаны дырэктарам Кобрынскага ваенна-гістарычнага музея імя А.В. Суворава. Па тым часе гэта было незвычайнае прызначэнне. Вядома, што партыя, асабліва на пасты ў галіне ідэалогіі, ставіла камуністаў, у рэдкіх выпадках – перспектыўных камсамольцаў. Але Мартынаў не быў і не стаў ні тым, ні другім, а жыццё даказала, што ўлада не памылілася ў «беспартыйным бальшавіку».

Аляксею Міхайлавічу домік Суворава дастаўся ў даволі сумным стане. У ліпені 1944 г. перад воінамі-вызваліцелямі паўстаў толькі каркас будынка з перакошанымі сценамі і трухлявым гонтавым дахам. Мясцовыя жыхары ледзьве не разабралі пабудову на паліва, але дзякуючы стараннем і энтузіязму Мартынава ён не толькі ацалеў, але і стаў візітнай карткай Кобрына, атрымаў вядомасць за межамі Беларусі. Трыццаць два гады Аляксей Міхайлавіч аддаваў сябе любімай справе, даследаваў мінулае роднага горада, напісаў больш за 70 артыкулаў, публікаваўся ў рэспубліканскіх і мясцовых органах друку. Пабываў у шэрагу краін, больш чым у 150 гарадах свету, выкарыстоўваў здабытыя звесткі і экспанаты для папаўнення музея. Калі ў горадзе Ізмаіле былі знойдзены ядры для гармат далёкага сувораўскага часу, дырэктар музея прывёз іх у чамаданах. Бясцэнную зброю XVIII стагоддзя ён даставіў з Ленінграда, вёз яго ў рэчавым мяшку ў агульным вагоне поезда, паклаўшы пад галаву замест падушкі.

З 1965 па 1972 г. Мартынаў на грамадскіх пачатках узначаліў Кобрынскае аддзяленне добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Ён не толькі вёў работу па захаванні наяўных помнікаў, але таксама ініцыіраваў работу па ўвекавечанні месцаў, звязаных з гістарычнымі падзеямі на тэрыторыі Кобрыншчыны. У 1974 г. да трыццацігоддзя вызвалення Беларусі па ініцыятыве Аляксея Міхайлавіча і пры яго непасрэдным удзеле было ўстаноўлена 24 абеліскі з мемарыяльнымі дошкамі, прысвечанымі падзеям Вялікай Айчыннай вайны.

Па яго ініцыятыве ў 1948 г. у Кобрыне быў заснаваны парк культуры і адпачынку імя А.В. Суворава, першы дырэктар якога Васіль Іванавіч Харытанюк быў блізкім сябрам свайго калегі. Дзякуючы актыўнай дзейнасці А.М. Мартынава ў 1964 г. у Кобрыне быў устаноўлены помнік А.В. Сувораву работы Чабатарова. Аляксей Міхайлавіч правёў вялікую работу па ўстанаўленні даты першага пісьмовага ўпамінання аб горадзе Кобрыне.

І на пенсіі Аляксей Міхайлавіч, нягледзячы на ўзрост, не збавіў тэмпы дзейнасці на абраным шляху. Па спрэчных пытаннях гісторыі да яго звярталіся як у своеасаблівае бюро даведак.

Высокі інтэлект, дыпламатычнасць, уменне аб'ектыўна ацаніць магчымасці кожнага чалавека, тактоўнасць у зносінах, тонкі гумар, а часам і лёгкая іронія прыцягвалі да яго людзей. Ён ніколі нікога не крыўдзіў і не прыніжаў. Прысутная сціпласць не дазваляла Мартынаву прасіць для сябе і за сябе. Але, калі трэба было папрасіць ці вырашыць пытанне на карысць агульнай справы, роўных яму не было.

Аляксей Міхайлавіч Мартынаў памёр 15 лістапада 1999 г. За актыўную краязнаўчую работу ўзнагароджаны медалём імя Н.К. Крупскай, мноствам грамат, імяннымі падарункамі, стаў ганаровым грамадзянінам Кобрына. Але лепшая ўзнагарода – добрая памяць пра яго ў сэрцах кобрынцаў.



***Да стагоддзя з дня нараджэння А.М. Мартынава наш музей выступіў з ініцыятывай назваць адну з новых вуліц Кобрына яго імем, а на доме № 39 па вуліцы Чырвонаармейскай, дзе жыў Мартынаў, устанавіць мемарыяльную дошку.***

***Алена РЫСЬ,***
***загадчык навукова-экспазіцыйнага аддзела Кобрынскага ваенна-гістарычнага музея імя Суворава***





# «Крамбамбуля» вяртаецца да вытокаў

Адразу за свежым радыёхітом «Турысты» бліжэйшым часам аматараў «Крамбамбулі» чакаюць два прыемныя сюрпрызы – новы альбом і вясёлы канцэрт.

Выступленне адбудзецца 1 кастрычніка ў мінскім клубе «Рэактар» і для калектыву стане своеасаблівым вяртаннем да вытокаў. «Нягледзячы на ўсе буйныя шоу, якія мы рабілі апошнім годам, «Крамбамбуля» пачыналася менавіта як клубны праект і багата ў чым ім і застаецца. Але гэта не значыць, што там будзе сумна!» – падміргвае лідэр гурта «N.R.M.» Лявон Вольскі. На канцэрце, у якім возьме ўдзел новая вакалістка калектыву Гюнеш Абасава, прагучаць не толькі хіты, але і песні, якія яшчэ ніхто не чуў.

У гэты ж час у продажы павінен з'явіцца і доўгачаканы новы дыск «Крамбамбулі», які, паводле Лявона Вольскага, за гэтыя месяцы паспеў ператварыцца з мініальбома ў альбом паўнавартасны: «Мы пастаянна штосьці дапісвалі; хтосьці пастаянна прапаноўваў у ім прыняць удзел, і замест запланаваных 5–6 песень на дыску іх ужо больш за 10!». Сярод іх – дуэты з беларускімі «рок-каралямі» Сяргеем Міхалком («Турысты») і Аляксандрам Кулінковічам («23 лютага»), а таксама лідэрам украінскага гурта «Скрябін» Андрэем Кузьменкам «Кузьмой» («Суседзі»).

***(Паводле інфармацыі БМАgroup)***

*Ад дзядзькі Антося*




# Пра зімоўку шкоднікаў

***Цяпер, увосень, ёсць характэрныя народныя прыкметы, што шмат гавораць пра тое, якія будуць восень і зіма.***

***Зараз пра зіму, пра сваё выжыванне пачынаюць дбаць і розныя шкоднікі. Каб мець садовы і іншы ўраджай налета, трэба ім у гэтым перашкодзіць. Маю наконт вышэйсказанага нямала сваіх назіранняў, ёсць нямала парад і іншых прыродазнаўцаў. З некаторымі з іх знаёмлю нашых чытачоў.***

Позна ўвосень, пасля лістападу добра відаць гнёзды, у якіх зімуюць залатагузкі. Гэтыя гнёзды створаны з 7–8 лісцяў, аплеценых шчыльнай шаўковай ніткай.

Ля самага ствала яблынь, у верхнім слаі глебы ці ў трэшчынах паміж ствалом і зямлёй зімуюць жукі яблыневага кветаеда. Радзей гэтыя шкоднікі застаюцца зімаваць у апалым лісці ці ў трэшчынах кары. Вясной, як толькі пачнуць раскрывацца пупышкі, гэтыя нягоднікі гужам цягнуцца да іх, каб рабіць сваю чорную справу. Самкі адкладваюць у кожны бутон па аднаму яйку. Адкладванне працягваецца ад 10 да 20 дзён. Праз 10–15 дзён пасля адкладвання яек (яшчэ да пачатку цвіцення) у бутоне заражаюцца лічынкі, якія харчуюцца тычынкамі і песцікамі бутонаў, склейваючы экскрэментамі пялёсткі. Бутоны не распускаюцца, засыхаюць і ападаюць.

На ніжняй частцы штамба яблыні, у трэшчынах кары, у шчылінах падпорак, якія падтрымлівалі галіны, знаходзяцца шчыльныя, шаўкавістыя коканы: у іх зімуюць вусені яблыневай пладажэркі. Часта гэтыя коканы можна ўбачыць у склепе ці ў пакоі, дзе доўга захоўваліся яблыкі, а таксама ў скрынках ці каробках, што таксама выкарыстоўваліся для гэтых мэтаў. Плады, пашкоджаныя яблыневай пладажэркай, недаразвіваюцца, заўчасна жаўцеюць і асыпаюцца задоўга да ўборкі ўраджаю. Да таго ж яны, як правіла, заражаюцца пладовай гніллю.

А вось яблыневая тля і яблыневая мядзяніца сустракаюць зіму ў стадыі яйка. Самка тлі адкладвае яйкі на маладых парастках, пераважна ля самых пупышак. Яйкі гэтыя прадаўгавата-авальныя, чорныя і бліскучыя, даўжынёй 0,5 міліметра. У яблыневай медзяніцы яйкі аранжава-жоўтыя, авальныя – 0,3–0,4 міліметра. На канцы яйка размешчаны адростак, які размяшчаецца ў тканцы кары.

Дарослыя медзяніцы і іх лічынкі высмоктваюць сок з пупышак, лісцяў, кветаносаў, выклікаючы адміранне кветак, ападзенне завязі.

Тля праколвае хабатком тканкі лісцяў, маладых парасткаў, высмоктваючы з іх сок. Пашкоджаныя лісці скручваюцца, заўчасна дэфармуюцца, мяняюць афарбоўку, а маладыя парасткі скрыўляюцца, няправільна развіваюцца, перастаюць расці.

Летам на лісцях вішні трапляюцца лічынкі вішнёвага слізістага пільшчыка, якія знешне нагадваюць невялікіх чорных п'явак. Гэтыя лічынкі зверху пакрыты чорнай слізззю. Зімой яны знаходзяцца ў зямлі на глыбіні 7 сантыметраў пад кронай дрэва, дзе і зімуюць у земляным кокане.

У шчыльным кокане ў глебе зімуюць і лічынкі пладовага пільшчыка, які шкоднічае на чорных парэчках. Кукалкі агрэставай агнёўкі размяшчаюцца пад кустамі, у верхнім слоі глебы. Яны лёгка пераносяць маразы, але вельмі адчувальныя да сухой глебы.

Глыбока ў зямлі, да 25 сантыметраў, зімуюць малінныя жукі; яшчэ летам іх лічынкі пабудавалі трывалыя «калысачкі», акукліліся, а ўвосень тут жа ў гэтай «калысачцы» паявіліся жукі. Але толькі вясной яны выйдуць на паверхню.

У зямлі, пад сухім лісцем зімуе сунічна-малінавы даўганосік, які пашкоджвае бутоны суніц і маліны.

Дробныя жукі-блошкі, ад якіх пакутавалі радыска, рэпа, рэдзька, засталіся на зімоўку пад апалым лісцем, у шчылінах парніковых рам і ў глебе.

У шчылінах агародж, на сценах, пад карнізамі дзвярэй размясціліся кукалкі капусніцы.

Вусень гарохавай пладажэркі сустракае зіму ў доўгім авальным кокане ў верхнім слаі глебы, там, дзе летам красаваўся гарох.

У глебе, на глыбіні 25–30 сантыметраў, зімуе каларадскі жук.

А яшчэ глыбей, да 1 метра, размяшчаюцца зімовыя хады мнагаяднага шкодніка – мядзведкі звычайнай. У гэтых хадах і дарослыя мядзведкі, і лічынкі, якія пашкоджваюць падземныя часткі раслін.

Як бачым, палавіна шкоднікаў зімуе ў глебе. Таму, калі вас данялі гэтыя шкоднікі летам, магчымым выйсцем барацьбы з імі будзе перакопванне глебы ўвосень пад кустамі, паміж радамі, у прыствольных кругах, на градках. Некаторых з іх можна знішчыць у час перакопвання, некаторыя, аказаўшыся на паверхні, не выратуюцца ад марозу, ды і паляўнічых на іх хопіць.

Са шкоднікамі саду дапамогуць расправіцца птушкі. Не шкадуйце толькі часу і сродкаў, каб пабудаваць для іх кармушкі, ды паклапаціцеся ў цяжкі для іх час. Не забывайцеся таксама пачысціць і пабяліць ствалы дрэў, каб вусеням пладажэрак не было дзе схавацца.

## ••••• Народныя прыкметы •••••

- *Калі лебедзі ляцяць у вырай позна – восень будзе працяглая і цёплая.*
- *Калі шпакі затрымаліся з адлётам у вырай – восень чакаецца сухая і доўгая.*
- *Дружны пад'ём гусей абяцае раннюю восень.*
- *Калі краты і мышы робяць вялікія запасы, а таксама цягнуць многа саломы ў свае норы – зіма ідзе суровая, снежная.*
- *Паяўленне камароў позна ўвосень – да мяккай зімы.*
- *Калі вавёркі размяшчаюць гнёзды высока на дрэвах – зіма будзе цёплая, з адлігамі, калі нізка – халодная, з маразамі.*

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**БАГДАШЭЎСКІ Ігнат** (1809 – каля 1870) – польскі паэт. Скончыў Мінскую гімназію, вучыўся ў Віленскім універсітэце. Жыў ў сённяшняй вёсцы Антосіна Дзяржынскага раёна, абіраўся маршалкам шляхты Мінскай губерні. У 1826 годзе ў Вільні выдаў кнігу паэзіі «Некалькі балад і аповесцяў», дзе спажыў асобныя сюжэты беларускага фальклору. Па сведчанні А. Мальдзіса (а ён спасылаецца на ўспаміны маці Ю. Славацкага), Багдашэўскі пісаў беларускамоўныя песні, а яго сястра Антаніна падбірала пад іх музыку.



**БАГІНСКІЯ** – род патомных нашых землякоў-гутнікаў (майстроў па шкле), вядомы з XVII ст. У тым і пазнейшых стагоддзях заснавалі шмат гут на Чарнігаўшчыне.

Канстанцін у 1866 годзе меў гуту у в. Яцканы (да 1866 маёнтак Яшуны) Астравецкага раёна.

Рамуальд (1934 – 1980) быў майстра-мастак шкляной скульптуры, працаваў на шклозаводзе «Нёман», а таксама на шклозаводах Расіі, Украіны, Грузіі. Пачаў удзельнічаць у мастацкіх выстаўках з 1959 года, свае творы пасвячаў пераважна анімалістычным жанрам («Конь-агонь», «Мядзведзь з бочачкай» і інш.)

Іван Рамуальдавіч прысвяціў сваё майстэрства шклозаводу «Нёман», браты Рамуальда працавалі на ўкраінскіх шклозаводах.

**БАГРЫМ Мікола** (г.н. невядомы, в. Даўляды Нараўлянскага раёна – 1943) вызначаўся расказамі беларускіх казак, паданняў, а таксама асабістым іх складаннем. Расстраляны гітлераўцамі.

**БАГРЫМ Паўлюк** ( магчыма, 1813, в. Крошын Баранавіцкага раёна – магчыма, 1891) – беларускі майстра па метале і паэт. Нарадзіўся ў сям'і рамесніка. Навучаўся ў Крошынскай парафіяльнай школе. За тое, што пісаў, чытаў і даваў люду беларускамоўныя вершы, быў здадзены ў рэкруты. Калі вярнуўся з іх, кавальнічаў у Крошыне. У тутэйшым касцёле захаваўся ягоны выдатны твор мастацтва – жырандоль і ўзор мастацкай коўкі на Беларусі ў XIX ст. На жаль, з многіх ягоных вершаў ацалеў толькі адзін, напісаны ў маладым узросце і надрукаваны паводле ўспаміну навагрудскага адваката І. Яцкоўскага «Аповесць з майго часу» (Лондан, 1854), – «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» У вершы ярка выявіўся пратэст супраць несправядлівасці, прыгону, натуральныя чалавечыя пачуцці народна-песеннага характару. Многія даследчыкі беларускай літаратуры XIX ст. лічаць твор шэдэўрам беларускай лірыкі тагачаснай эпохі, а многія беларускія паэты, у тым ліку і сучасныя, прысвяцілі Паўлюку Багрыму свае натхнёныя вершы з прызнаннем у вялікай павазе да яго трагічнага лёсу, да ягонага творчага дару.



**БАГУШЭВІЦКАЯ СТАТУЭТКА** – выява чалавечай галавы, знойдзеная ў 1965 годзе ў в. Багушэвічы Бярэзінскага раёна пад час раскопкак гарадзішча мілаградскай і ранняга перыяду зарубінецкай культуры (2-я палова I тысячагоддзя да н.э.). Выява ўяўляе гліняную абпаленую скульптурку вышынёй каля 3,5 см. Твар падкрэсліваецца індывідуальнасцю, выразна бачацца вочы, нос, вялікая барада і зачэсаныя на патыліцу валасы. Некаторыя вучоныя лічаць, што па асобных прыкметах статуэтка, блізкая да скіфскіх партрэтных выяў, магла адлюстроўваць твар пэўнага, канкрэтнага чалавека свайго часу. Захоўваецца ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі (г. Маладзечна).

## Паганскі «Znich»

З гуртом «Znich», які грае фальклорныя песні ў «цяжкіх» апрацоўках, звязаная яшчэ адна экстрэмальная навінка ад «БМАgroup»: лэйбл падрыхтаваў да выдання (упершыню на CD) першы і самы рарытэтны альбом калектыву, які называецца «Язычнік я» (1987 год). Акрамя дзесятка знакамітых хітоў («Ваўкалака», «Дажбог, о наш Сварог», «Кліч багоў», «Чорны зьніч» і інш.), у праграму дыска ўвойдзе і некалькі бонусаў, што былі запісаныя легендарным першым складам гурта: напрыклад, кампазіцыя «Крыжы-абярэгі», падрыхтаваная спецыяльна да фестывалю «Генералы айчыннага року», дзе «Znich» заваяваў адзін з галоўных прызоў. У якасці відэабонуса слухач атрымае поўную версію сэта гурта з канцэрта ў Мінскім лядовым палацы вясной 2004 года.

Прэм'ерная прэзентацыя новага рэліза, акрыленага поспехам папярэдняга CD (альбом «Запавет апошняга старца»), адбылася гэтай восенню падчас усебеларускага тура гурта і зноў натхніла выдаўцоў на рэстаўрацыю іншых альбомаў класікі беларускага экстрыма (але гэта ўжо больш далёкія перспектывы).

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 23. 09. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330 ад 27. 02. 2004 г.)
Заказ 1535.
Тыраж 1100.